# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 22 3 чэрвеня 1993 г. Выдаецца з 1955 г.

(2320)




Нарэшце мы па кроплі выціскаем з сябе раба і становімся беларусамі, якія маюць свой радавод, багаты на славутыя імёны і постаці. Замест стандартных помнікаў Леніну, абавязковых на плошчы кожнага горада, мы пачынаем дбаць аб помніках сынам Беларусі. У незалежнай Рэспубліцы Беларусь першы такі помнік адкрыты на пачатку мая ў гістарычным Тураве. Гэта — даніна павагі нашага народа "Златоусту, паче всех воссиявшему нам", Кірылу Тураўскаму.

Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА.

ПОГЛЯД ПРАФЕСІЯНАЛА "АДТУЛЬ". МАГЧЫМА, СПРЭЧНЫ

## ЦІ ЛЁГКА ВЯРНУЦЦА З ВЫРАЮ...

**Праблема вяртання нашай нацыянальнай гісторыка-культурнай спадчыны няпростая. Наша спадчына — не толькі тыя каштоўнасці, якія былі вывезены з Беларусі ў час войнаў ці, так бы мовіць, у перыяд "ціхай акупацыі" (як у царскія, так і ў сталінскія часы), калі ўсё лепшае, што ствараў наш народ, вывозілася ў Маскву ці іншыя буйныя цэнтры культуры.**

**Наша спадчына — гэта і людзі, якія па тых ці іншых абставінах апынуліся па-за межамі краю, і іх вяртанне (не абавязкова ў прамым сэнсе, а проста як далучэнне да ўдзелу ў культурным і навуковым жыцці рэспублікі) — таксама праблема як для іх саміх, так і для Беларусі.**

**Інтэрв'ю з адным з гэткіх людзей, старшым навуковым супрацоўнікам Расійскага этнаграфічнага музея ў Санкт-Пецярбургу Алегам ЛЫСЕНКАМ якраз і закранае гэтыя праблемы, да таго ж ілюструе супярэчнасці, з якімі непазбежна сутыкаецца беларус, жывучы па-за межамі краю.**

**І хай не ўсе думкі, выказаныя спадаром Лысенкам, заслугоўваюць таго, каб узяць іх на ўзбраенне ў справе вяртання нашай спадчыны, тым не менш яны люстэрка тых працэсаў, якія адбываюцца ў свядомасці суайчыннікаў, вымушаных жыць і працаваць у іншамоўным асяроддзі.**

**Знаёмячы чытача з гэтым інтэрв'ю, мы спадзяёмся, што ён і сам вызначыць, якія думкі сп.Лысенкі слушныя, а якія патрабуюць ад кожнага свайго стаўлення да пазіцый, выказанай спадаром Лысенкам, этнографам, ці, як ён сам лічыць, этнолагам.**

**— Алег Віктаравіч, растлумачце, калі ласка, розніцу паміж этнографам і этнолагам.**

— Этнограф — больш вузкае паняцце, яно ўключае ў сябе толькі палявыя даследаванні, апісанне і фіксацыю знойдзенага матэрыялу, а этнолаг, хаця і займаецца тым самым, глядзіць на ўсё шырэй — вывучае тое, што знойдзена, абагульняе, распрацоўвае канцэпцыі, імкнецца зразумець народ у сістэме народаў.

**— Спадар Алег, вы сказалі, што нарадзіліся ў Полацку. А як вы апынуліся тут, у гэтым горадзе?**

— Гэта было, напэўна, закладзена генетычна: продкі мае пераехалі ў канцы XIX стагоддзя з Полацка ў Пецярбург. Прадзеды мае, напрыклад, пахаваны тут, а дзед і бабуля — у Полацку. Я і сам там нарадзіўся. Скончыў школу, гістарычны факультэт БДУ ў Мінску. І калі яшчэ вучыўся, рабіў у Полацкім краязнаўчым музеі, займаўся археалогіяй старажытнага Полацка. У час вучобы сустрэўся з такімі знакамітымі вучонымі, як Рапапорт, Булкін, якія былі кіраўнікамі маёй студэнцкай практыкі, дарэчы, самі ленінградцы. Яны ж (менавіта В.Булкін) і прапанавалі мне працу ў Этнаграфічным музеі, дзе я і дагэтуль адказваю за беларускі аддзел, правільней будзе сказаць, за аддзел этнаграфіі ўсходніх славян.

**— Хіба ж толькі гэтым абмяжоўваецца ваша дзейнасць!**

— Ведаеце, мы ўсе ў нейкай ступені падпарадкоўваемся стэрэатыпам, і адзін з іх падказвае, што работнік музея — гэта той, хто бязвылазна сядзіць у сваім кабінеце і апроч гэтага нічым

(Заканчэнне на 7-й стар.).

ЧАМУ МЫ ТАКІЯ?

## КАЛЬВАРЫЯ - АХВЯРА ВАНДАЛІЗМУ

I

Людзі заўжды думалі пра смерць. Нават болей, чым пра жыццё. Старажытнагрэчаскі філосаф Эпікур казаў, што, пакуль існуем мы, смерці няма, калі ж яна прыходзіць, то няма ўжо нас.

Нас не будзе. Застануцца магілы, помнікі, крыжы. Людзі, якія прыйдуць пасля нас, будуць чытаць надпісы з нашымі імёнамі. Што яны адчуюць пры гэтым? Жаль? А можа, ім будзе проста сорамна, як мне кожны раз, калі я прыходжу на Кальварыйскія могілкі ў Мінску, калі бачу іншыя на ўскраінах горада. Не пакідае пачуццё, нібы пахаванні тут зроблены выпадкова і мёртвыя перашкаджаюць жывым.

Калі гэта не так, то чаму ж яны такія недагледжаныя, чаму няма наканаванага ў такіх месцах спакою і цішыні? Чаму на іх столькі бруду?

Усе мы будзем там, на могілках. І робіцца страшна, калі ўяўляеш, што родны твой чалавек ці ты сам будзеш ляжаць у магіле, якую могуць затаптаць. З часам ніхто і не знойдзе твайго імя на надмагільным помніку, не знойдзе самой магілы. Магіл такіх на Кальварыі нямала. Аднойчы я назірала тут за дзецьмі. Яны адчуваюць сябе на Кальварыі вольна, нібы ў вялікім парку, гуляюць у хованкі (за магіламі можна схавацца). А два мільы хлапчукі, увайшоўшы ў азарт спаборніцтва — хто дастане да крыжа, — кідаюць у касцёл камякамі снегу. Ім было так весела. Гэтыя хлапчукі — нашы дзеці.

І, відаць, такія звычкі ў іх — ад бацькоўскага выхавання. Як вядома, якое карэнне, такое і насенне. Іх бацькі і дзяды не цырымоніліся ні з могілкамі, ні з храмамі.

Калі пра зруйнаванні і апаганення цэркваў мы шмат чулі, то пра тое, як абыходзіліся атэісты з людскімі пахаваннямі, гаварылася менеей. Для мяне, напрыклад, было страшэнным адкрыццём, што Беларускі універсітэт знаходзіцца на месцы былых яўрэйскіх могілак. Пра гэта я даведалася з "Плана губернскага горада Мінску (1898 г.)", які склаў М.П.Зубчанка па матэрыялах Дзяржмузея Беларусі. Яўрэйскія могілкі на ім пазначаны паміж вуліцай Захар"еўскай (зараз праспект Ф.Скарыны) і вуліцай Бабруйскай. Там цяпер і знаходзіцца універсітэцкі гарадок.

Канешне, яўрэйскім могілкам ужо нічым не дапаможаш. Мне хочацца расказаць пра касцёл і могілкі на Кальварыі. Гэта самае старое пахаванне ў Мінску. Вядомае яно з пачатку XIX стагоддзя. У 1830 годзе могілкі былі агароджаны і была пабудавана ўязная брама. У 1839-м драўляная капліца саступіла месца касцёлу з бутавага каменя. У.Сыракомля піша пра Кальварыю, што быў гэта ў яго час "арыстакратычны Мінскі могільнік, размешчаны ў паўночна-заходнім баку, за тры вярсты ад гарадскіх муроў". Капліца была дзеючай да 1937

(Заканчэнне на 4-й стар.).

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

СТАТЫСТЫКА

## МАЛЫ БІЗНЕС

На сённяшні дзень у выканаўчых камітэтах мясцовых Саветаў зарэгістравана каля 9 тысяч новых структур рыначнай эканомікі. У іх занята каля 110 тысяч чалавек. Акрамя таго, больш за 85 тысяч грамадзян працуюць у малых прадпрыемствах на дагаворных умовах і яшчэ каля 20 тысяч — па сумяшчальніцтву.

Большасць з гэтых прадпрыемстваў працуе ў гандлі і грамадскім харчаванні — 2 393. Каля паўтары тысячы асвойваюць рынак у сферы будаўніцтва. Замыкаюць спіс малыя прадпрыемствы і таварыствы з абмежаванай адказнасцю, якія заняты рашэннем транспартных і сельскагаспадарчых праблем, — адпаведна 93 і 147, а таксама працуюць на ніве народнай адукацыі — 54 прадпрыемствы.

ТАМОЖНІ

## НА ГРАНІЦЫ З РАСІЯЙ

Створана Магілёўская тэрытарыяльная таможня, якая будзе кантраляваць экспарт і імпарт тавараў на ўсходзе нашай рэспублікі. Плануецца адкрыццё і другой таможні — у Крычаве. А пакуль на мяжы з Расіяй у гэтым рэгіёне працуюць чатыры міліцэйскія пасты. Толькі ў гэтым годзе яны канфіскавалі тавараў, якія спрабавалі незаконна вывезці з Беларусі, на агульную суму каля двух мільёнаў рублёў.

БЕСПРАЦОЎЕ

## ЖАНОЧАЯ ДОЛЯ

Незайздросная доля беспрацоўнага сёння ў рэспубліцы амаль у 53 тысяч чалавек.

Больш за 65 працэнтаў з іх складаюць жанчыны. 16 тысяч прадстаўніц прыгожага полу былі вызвалены ад пасады пры ліквідацыі прадпрыемстваў або трапілі пад скарачэнне. 3,5 тысячы — выпускніцы вышэйшых, сярэдніх навучальных устаноў і школ. Больш за 11 тысяч работніц звольніліся па ўласнаму жаданню, а новага месца работы знайсці не змаглі.

КРЫМІНАЛЬНАЯ ХРОНІКА

## САЎДЗЕЛЬНІКІ ЗЛАЧЫНСТВА — МІЛІЦЫЯНЕРЫ

У Смаргоні завяршыўся судовы працэс над групай раскрадальнікаў грамадскай маёмасці, што дзейнічалі ў Астравецкім раёне, сярод якіх аказалася некалькі супрацоўнікаў міліцыі. Уступіўшы ў змову з загадчыцай склада мясцовага калгаса "Шлях Леніна" Марыяй Балтрукові<br>ч, яны дапамагалі ёй (вядома, за адпаведную плату) збываць у суседнюю Літву дэфіцытнае гаручае. Пры гэтым дзейнічалі па аднолькаваму сцэнарыю: суправаджалі загружаныя калгасным палівам аўтамабілі ў абход пагранічных кантрольна-пропускных пунктаў. Такім шляхам за два рэйсы перапрададзена амаль 9 тысяч літраў бензіну на некалькі дзесяткаў тысяч рублёў.

Падсудныя прыгавораны да пазбаўлення волі ўмоўна на розныя тэрміны.

ЖЭСТ

## "БЕЛАРУСЬ" У ЮРМАЛЕ — НАША

Палітычным актам назвалі пасол Латвійскай Рэспублікі ў Беларусі Яніс Лоўнікс і дзяржаўны сакратар па справах Садружнасці Незалежных Дзяржаў Уладзімір Заламай падпісанае імі пагадненне аб вяртанні санаторыя "Беларусь" на Рыжскім узмор'і ва ўласнасць нашай рэспублікі.

Пасля падпісання дакументаў Яніс Лоўнікс, адказваючы на пытанні журналістаў, адзначыў, што ўрад Латвійскай Рэспублікі вітае вяртанне ўласнасці яе сапраўднаму гаспадару.

Яніс Лоўнікс таксама заявіў, што для некаторых грамадзян Беларусі ўводзіцца льготны візавы рэжым. Урад Латвійскай Рэспублікі прыняў рашэнне, што з гэтага часу любы грамадзянін Беларусі, які мае замежны пашпарт і пуцёўку для адпачынку ў гэты санаторый, зможа атрымаць візу ў латвійскім пасольстве бясплатна. Гэта, паводле слоў дыпламата, не проста прыгожы жэст, а пасільная дапамога беларусам, якія перажываюць вынікі чарнобыльскай катастрофы.

ГАНАРОВЫ ПРАФЕСАР БДУ



Вучоны савет Беларускага дзяржаўнага універсітэта на сваім нядаўнім пасяджэнні прысвоіў званне ганаровага прафесара Анджэю Цеханавецкаму. Ён, наш суайчыннік з Англіі, доктар мастацтвазнаўства, з'яўляецца кавалерам дзяржаўных узнагарод многіх краін свету. Акрамя гэтых пералічаных тытулаў носіць і іншы: ганаровы доктар Варшаўскага і Мексіканскага універсітэтаў.

А. Цеханавецкі нарадзіўся на Віцебшчыне і вядзе свой радавод са старажытнага арыстакратычнага роду князёў Мсціслаўскіх і Заслаўскіх.

У выступах членаў вучонага савета былі адзначаны галоўныя напрамкі плённай і шматбаковай дзейнасці доктара Цеханавецкага. Такія, як, напрыклад, навуковая праца. Ён аўтар вядомых у акадэмічных колах свету даследаванняў па гісторыі мастацтва і культуры Беларусі. Як арганізатарская: ініцыятыва і правядзенне навуковых нарад і канферэнцый у Англіі, Польшчы, Беларусі. Як мецэнацкая: ён ахвяраваў беларускаму народу слуцкі пояс, стpaрадрукі, карціны.

На пасяджэнні прысутнічала і выказала свае віншаванні новаму ганароваму прафесару БДУ Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Польшча ў Беларусі Э. Смулэк. Ліст з віншаваннямі і пажаданнямі плённай працы даслаў А. Цеханавецкаму і Старшыня пастаяннай Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны Н. Гілевіч.

МІЖНАРОДНЫ СЕМІНАР

У Міжнародным маладзёжным лагеры "Юнацтва", што на Мінскім моры, прайшоў трохдзённы семінар. Яго тэма: "Праблемы і перспектывы працаўладкавання інвалідаў па зроку ва ўмовах рыначнай эканомікі; працаўладкаванне — для большасці, сацыяльная ахова — для ўсіх". Беларускае таварыства інвалідаў па зроку ўжо трэці раз збірае да сябе са ўсяго свету прадстаўнікоў аналагічных аб''яднанняў, каб разам вырашаць праблемы іх нялёгкага жыцця.

На семінары распрацавана стратэгія прафесійнай падрыхтоўкі страціўшых зрок. Яе высновай стане лепшы вопыт краін як Усходняй, так і Заходняй Еўропы.



ЗДАРЭННІ

## НАПАД НА РЭДАКЦЫЮ

Неўстаноўленыя асобы ўчынілі пагром у рэдакцыі аб'яднанай газеты ў Лідзе. Пранікнуўшы ноччу ў неахоўваемае, размешчанае амаль у цэнтры горада памяшканне, налётчыкі ўзламалі дзверы некалькіх кабінетаў, пашкодзілі мэблю, ускрылі сейф. Украдзены тэлефонны апарат, асабістыя рэчы супрацоўнікаў. Пацярпела чытацкая пошта, дзелавыя паперы. Як паведаміў карэспандэнту Белінфарма рэдактар "Лідскай газеты" Аркадзь Бяспалы, гэта чацвёрты напад на рэдакцыю за тры апошнія гады. Мяркуецца, што іх учыняюць тыя, каму не падабаецца прынцыповы курс газеты. Папярэднія "ЧП" засталіся нераскрытымі, падрабязнасці апошняга высвятляе следства.

ХІМІЧНАЯ АХОВА

## СУПРАЦЬ АГНЮ

У Інстытуце лесу Акадэміі навук Беларусі распрацаваны вогнеахоўныя хімічныя саставы, якія эфектыўна могуць быць выкарыстаны пры тушэнні лясных пажараў. Сутнасць навінкі на першы погляд простая. Палаючы ўчастак лесу акружаецца паласой высечкі ці ворыва ў некалькі метраў. На яе наносіцца спецыяльнае хімічнае рэчыва, якое і з'яўляецца лакалізатарам полымя. Дасягнуўшы такога бар'ера, агонь імгненна страчвае гарачыню і праз некалькі хвілін сам па сабе пачынае гаснуць.

Штогод лясныя пажары вынішчаюць у рэспубліцы сотні тысяч гектараў каштоўнага народнага багацця — лесу. І тое, што ўбачылі пры выпрабаваннях на палігоне Інстытута лесу вучоныя, леснікі-практыкі і прафесіянальныя пажарныя, усяляе вялікі аптымізм.

ЗНАХОДКІ

## РЫМСКІЯ ДЫНАРЫІ

Легендарныя дынарыі Рымскай імперыі, якія, паводле папярэдняга заключэння спецыялістаў, былі выраблены ў 182 годзе новай эры, знойдзены ў гліняным гаршку на глыбіні двух метраў недалёка ад вёскі Кабакі Бярозаўскага раёна.

Такія знаходкі на тэрыторыі Беларусі і Украіны раней не фіксаваліся.

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

НАШАЙ сталіцы для пашырэння сваіх межаў патрабуецца на бліжэйшы час 9 тысяч гектараў зямлі ў прыгарадзе. Па плану развіцця Мінска да 2010 года ў горадзе будуць будавацъ дамы меншай колькасці паверхаў, атрымае развіццё ўзвядзенне катэджаў.

У ГЛЫБОКІМ крызісе рачны транспарт рэспублікі. На працяглым адстоі 80 працэнтаў транспартнага транзітнага флоту, 70 працэнтаў калектыву без працы. На выплату дапамог непрацуючым няма грошай.

ПАВОДЛЕ сацыялагічных апытанняў, рэйтынг папулярнасці палітычных сіл узначальвае Камуністычная партыя Беларусі — 15,9 працэнта. На апошнім месцы нацыянальна-дэмакратычная партыя, яе падтрымлівае толькі 1 працэнт насельніцтва, БНФ мае 5,8 працэнта прыхільнікаў.

ХОДЗЯЦЬ чуткі, што ў бліжэйшы час, магчыма, будзе падпісана ўрадавае пагадненне аб дапамозе Расіі ў будаўніцтве атамнай станцыі на тэрыторыі Беларусі. Як вядома, рэспубліка з распадам СССР пазбавілася надзейных крыніц энергіі. Але ж перад намі — прывід чарнобыльскай катастрофы...

ЗНОЙДЗЕНА надмагільная пліта слыннага беларускага мастака Напалеона Орды. У Іванаве пры будаўніцтве школы на месцы могілак быў знішчаны фамільны склеп Ордаў. Тут быў пахаваны мастак паводле яго завяшчання. Надмагільную пліту выратаваў і захаваў настаўнік з вёскі Агова Барыс Вайцэховіч.

КАМЕРЦЫЯ, відаць, хутка пранікне ў дзіцячыя садкі. Да школ і вышэйшых навучальных устаноў гэта пошасць ужо дайшла. Сёлета інтэлектуалы ад бізнесу прапануюць свае паслугі студэнтам і школьнікам: напісанне дыпломнай работы каштуе да 45 тысяч рублёў, шпаргалка для выпускнікоў школ па любому экзамену — 500 рублёў.

ПЯЦЬ з паловай тысяч мінчан атрымалі зямлю пад агароды і дачы, дзеля гэтага ім перададзена 55 гектараў пустэчы вакол сталіцы. Усяго ж мінчанам выдзелена 665 гектараў зямлі.

У БРЭСЦЕ з'явілася фірма, якая мае намер сватаць нашых кабет замежным жаніхам. Вярбоўшчыкі навест абяцаюць ахвочым выскачыць замуж адшукаць суджанага ў любым пункце свету — у Германіі, ЗША, Аўстраліі і нават Новай Зеландыі. Былі б грошы!

*"НЕ ЖАНОЧАЯ" СПРАВА?..*

# БІЗНЕС-ВУМЕН

"Я не прыпомню выпадку, калі магла б аднесці сябе да слабай паловы чалавецтва. Але гэта мо таму, што я Вол па кітайскаму, здаецца, гараскопу. Таму так яно і атрымліваецца ў жыцці: упрагаюся і цягну любую работу, не думаючы, мужчынская яна ці жаночая. А думка пра тое, каб не працаваць увогуле, быць хатняй гаспадыняй і выхавацелем малых яшчэ дзяцей, недапушчальная ўвогуле найперш таму, што немагчыма, як і ў большасці сем"яў, пражыць на адну зарплату мужа. Вось таму нашы дзеці атрымліваюць, як мы жартуем, "дваранскае выхаванне", г.зн. выхоўваюцца на дварэ. А з майго боку вядзецца яшчэ і выхаванне па тэлефоне ў рабочы час. Якое усё ж шчасце — хатні тэлефон!.."

Гэты сумны маналог я пачула ад жанчыны, якая вырашыла ўзяцца за працу зноў-такі не жаночую. Яна пачала займацца бізнесам.

Мне думаецца, што сёння нашых, былых савецкіх, а зараз СНДэўскіх жанчын ніяк нельга назваць гэтай самай слабай паловай чалавецтва. Наша (і асабліва беларуская) жанчына можа ўсё! Што там у Някрасава: "Коня на скаку остановит, в горящую избу войдет..." Гэта пройдзены этап. Наша жанчына пайшла далей і смела называе сябе такім нянаскім, але модным словам — "бізнес-вумен".

Жанчына ў бізнесе?! А куды дзенешся? Пацягнеш і тут любы воз, які б цяжкі ён ні быў. Ды і што застаецца, калі, згодна са статыстычнымі данымі, 80 працэнтаў сярод беспрацоўных у Беларусі — жанчыны. Вось таму ад напаўжартоўнай размовы даводзіцца перайсці да вельмі сур"ёзнай, з мноствам праблем тэмы: "Жанчына і бізнес".

З жаночымі праблемамі мне прыйшлося пазнаёміцца дастаткова грунтоўна падчас II Міжнароднага фестывалю жаночага кіно, які праходзіў у Мінску напрыканцы красавіка гэтага года. У рамках фестывалю адбылася канферэнцыя на тэму: "Жанчына, цывілізацыя, грамадства ў канцы XX стагоддзя". Канферэнцыя праходзіла на працягу трох дзён. Кожны дзень быў свой "круглы стол": "Жанчына і палітыка" з удзелам вядомых грамадскіх дзеячак Галіны Старавойтавай і Казімеры Прунскене, а потым "Жанчына і бізнес" і "Жанчына і экалогія".

Гэта была першая "ластаўка". Канферэнцыя была тэарэтычнай, перадумовай адкрыцця практычнай выставы-кірмашу, якая праходзіла праз пару тыдняў, у маі, у сталічным Палацы мастацтва і мела назву "Жанчына, творчасць, бізнес". Тое мноства надзвычай прыгожых, далікатна, па-мастацку выкананых вырабаў жаночых прадпрыемстваў, пералік якіх зойме многа месца, дакладна пацвярджала, што жаночы бізнес неаддзельны ад творчасці. Жаночы бізнес асаблівы. Гэта нялёгкая і вялікая праца, натхненне, фантазія.

Як дапамагчы жанчыне ў бізнесе? Гэту мэту мела канферэнцыя, якая адбылася падчас выставы-кірмашу. Галоўная мэта — выявіць таленавітых жанчын, дапамагчы ім знайсці рынак збыту іх тавараў і знайсці спонсараў.

На канферэнцыі прысутнічалі госці: місіс Керстэман і місіс Вандэрзантэ з Нідэрландаў (Галандыя). Абедзьве жанчыны займаюцца бізнесам даўно і маюць у гэтай справе вялікі вопыт, якім вырашылі падзяліцца з нашымі жанчынамі.

У Галандыі жаночы рух даволі моцны. Нідэрландская кампанія кансультантаў праводзіць бясплатна вучобу ў Мінску па пытаннях малога бізнесу, менеджменту, якая рэгулярна арганізуецца Саюзам жанчын Беларусі.

Гэтую добрую справу вядзе і Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі, дзе створаны Міжнародны цэнтр сацыяльных і працоўных пагадненняў, ствараецца Рэспубліканскі цэнтр сацыяльнай падтрымкі жанчын. На базе цэнтра праходзяць бясплатную перакваліфікацыю і юрыдычныя кансультацыі пачынаючыя бізнесмены.

На канферэнцыі выступалі жанчыны, якія маюць сталы вопыт у бізнесе. Святлана Папавудзіна — прадстаўнік малога прадпрыемства з калектыўнай адказнасцю "Сертыка". Прадпрыемства аказвае паслугі ў галіне метралогіі і стандартызацыі і працуе самастойна ўжо трэці год. Усяго на прадпрыемстве 25 чалавек, з іх 21 жанчына. Яны займаюцца даволі сур"ёзнымі праблемамі сертыфікацыі прадукцыі сродкамі неразрушаючага кантролю на прадпрыемствах машынабудавання, энергетыкі, прыборабудавання. Аднак праблемы і цяжкасці тут тыя ж, што і ў іншых жанчын, якія працуюць у бізнесе: неапраўдана жорсткая падатковая палітыка адбівае ўсякае жаданне працаваць. Няма сэнсу зарабляць грошы, бо што б ні зарабілі, амаль усё ідзе на падаткі.

Другая праблема — вельмі вялікія накладныя расходы: электраэнергія, асвятленне, ацяпленне. Зараз павышаны выплаты за арэнду памяшканняў. Усё гэта выліваецца ў вялікую суму і проста звязвае рукі. Не хапае сродкаў, каб абнавіць асноўныя фонды, купіць абсталяванне і заплаціць людзям большую зарплату.

Дык як жа дапамагчы жанчыне ў бізнесе? На гэта пытанне спрабавала адказаць кандыдат эканамічных навук Людміла Гразнова. Яна адзначыла, што ў "малым" бізнесе занята 27 працэнтаў жанчын. Аднак у вялікіх фірмах, на прадпрыемствах, якія вядуць вялікі бізнес, колькасць жанчын складае 8,9 працэнта, гэта значыць утрая меншая.

Спецыялізацыя жанчын у бізнесе больш прыбліжана да хатняй працы: вышыўка, трыкатаж, пляценне, вырабы з саломкі і льну, інш. З другога боку, гэтай справай займаюцца жанчыны, якія маюць вышэйшую адукацыю, у асноўным інжынеры, тэхнолагі, навуковыя супрацоўнікі. Яны трацяць набытую кваліфікацыю, абясцэньваюць усю сваю былую дзейнасць. Неабходна накіроўваць жанчын, якія валодаюць грунтоўнымі ведамі і вопытам работы, менавіта ў тую сферу прадпрымальніцтва, якая звязана з іх былой дзейнасцю. Людміла Гразнова мае рацыю, што для гэтага трэба мяняць сам бізнес, бо ў сённяшнім прадпрымальніцтве адбываецца не толькі дыскрымінацыя жанчын, а і ўсіх сумленных людзей, якія хочуць займацца справай на цывілізаваным узроўні. Зараз жа ўсе справы вырашаюць тыя, хто мае сувязі і пратэкцыі. Неабходна мяняць патрыярхальныя стэрэатыпы нашага грамадства ў адносінах да жанчыны ўвогуле, тады толькі яна не будзе адчуваць гэтай дыскрымінацыі як асоба ніжэйшага гатунку.

У гасцей з Галандыі склалася ўражанне аб нашых жанчынах як аб актыўных і моцных творчых асобах. На Захадзе пагоня за грашыма, прыбыткам засланяе ўсё. Многія дзелавыя людзі забываюцца пра тэатры і канцэрты, пра паэзію і музыку.

Хочацца верыць, што, пераймаючы вопыт заходняга бізнесу, нашы жанчыны не возьмуць гэтую спадчыну ў свой набытак, бо страта духоўнага пачатку страшней за самую вялікую беднасць.

**Галіна АГАЛАКАВА.**




Выстаўка-кірмаш "Жанчына, творчасць, бізнес".

Фота М. МІНКОВІЧА.

**У БЕЛАРУСАЎ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ**

# НА ПЕРАЛОМЕ ЖЫЦЦЯ

На некалькі дзён апошняй дэкады мая штаб-кватэра Беларускага грамадска-культурнага таварыства (БГКТ) па вуліцы Варшаўскай, 11, у Беластоку (Польшча) стала месцам надзвычай актыўнай дзейнасці асаблівага рэзанансу і важнасці. З 21 па 22 мая тут праходзіла міжнародная навукова-тэарэтычная канферэнцыя "Дарога да ўзаемнасці", а 23-га — XII з'езд БГКТ.

Вельмі абагульнена адзначу, што сустрэча беларускіх і польскіх навукоўцаў у многіх сваіх рысах атрымалася трапным тэарэтычным дапаўненнем да з'езда. Шмат якія пытанні навукова-даследчага характару, якія абмяркоўваліся вучонымі, тычыліся праблематыкі мовы, культуры, гісторыі нашых землякоў, трохсоттысячнага аўтахтоннага насельніцтва Беласточчыны. Таму знайшлі яны гучанне і на з'ездаўскай трыбуне.

Канферэнцыя была падрыхтавана супольнымі высілкамі БГКТ, Гродзенскага аддзялення Беларускага фонду культуры, Саюза палякаў Беларусі. Сярод яе ўдзельнікаў знаходзіліся афіцыйныя, а таксама духоўныя асобы, запрошаныя госці з Беларусі і Польшчы. Большасць з іх узяла ўдзел і ў рабоце XII з'езда.

На пленарным пасяджэнні выступіў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у Польшчы У. Сянько. Ён жа перадаў ад імя міністра замежных спраў П. Краўчанкі прывітальныя словы і да з'езда.

Віншаванні і пажаданні ад урада РБ з нагоды гэтых дзвюх акцый абвясціла загадчык сектара Упраўлення сацыяльна-культурнага комплексу Савета Міністраў РБ Н. Голубева.

Прывітальнае пасланне навукоўцам і дэлегатам з'езда БГКТ даслаў і міністр інфармацыі А. Бутэвіч. Для асвятлення гэтых падзей была запрошана і наша газета.

Пасля завяршэння дыскусій і выступленняў з рэфератамі на канферэнцыі ўся яе грамада наведала Музей помнікаў беларускай культуры і праваслаўную царкву Святога Мікалая ў Гайнаўцы, дзе літаральна на наступны дзень адкрыўся фестываль царкоўнай музыкі, Музей пад адкрытым небам у Белавежскай пушчы.

XII з'езд БГКТ, які сабраў 77 дэлегатаў з розных аддзелаў таварыства, адкрыў старшыня галоўнага праўлення А. Баршчэўскі, на абавязку якога быў і справаздачны даклад. Сход віталі паслы Сейма Рэспублікі Польшчы У. Цімашэвіч і Я. Чыквін, прадстаўнікі палітычных партый, праваслаўнага кліру. Акрамя ўжо памянёных прадстаўнікоў беларускага боку, свой выступ адрасаваў з'езду і намеснік старшыні праўлення Беларускага таварыства "Радзіма" У. Навіцкі.

У гонар з'езда ў царкве Беластока была адслужана літургія.

... Вельмі няпростую гадзіну перажывае і БГКТ, і ўся беларуская нацыянальная меншасць у Польшчы. Прычын тут нямала, іхнія карані цягнуцца з грунту эканамічных цяжкасцей, якія ставяць пад пагрозу нават магчымасць утрымання і арэнды будынка таварыства; з пэўнага суб'ектывізму, паводле многіх дэлегатаў, у адносінах да беларусаў краіны з боку польскіх уладаў; недастатковай увагі і дапамогі з боку Беларусі. І не затухае разлад, які прывёў да рэзкага размежавання ў Саюзе беларусаў Польшчы...

Поўнай неспадзяванкай для мяне была заява, падтрыманая дэлегатамі, што БГКТ не будзе накіроўваць пасланцоў у Мінск на першы З'езд беларусаў свету...

XII з'езд даў мандат даверу нававыбранаму кіраўніцтву: старшыні галоўнай управы Я. Сычэўскаму, яго намесніку М. Мікалаюку, сакратару В. Ласкевіч. Ганаровым старшынёй быў абраны прафесар, вядомы паэт і грамадскі дзеяч А. Баршчэўскі.

Больш падрабязны матэрыял аб вышэйзгаданых падзеях чытач знойдзе ў бліжэйшым нумары "Голасу Радзімы".

**Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.**

*ДАЛІКАТНАЯ СІТУАЦЫЯ*

# НОТА ПАСОЛЬСТВА ЗША

Паводле звестак, атрыманых БелаПАН з пэўных крыніц, пасольства ЗША ў Мінску накіравала ноту Міністэрству замежных спраў Беларусі з прычыны выступлення прадстаўніка Савета Міністраў рэспублікі Г. Данілава на адной з прэс-канферэнцый.

У ноце прыводзяцца словы Г. Данілава, якія трактуюцца пасольствам як абраза пасла.

Пасольства патрабуе тлумачэнняў наконт гэтых заяў, гаворыцца ў ноце, асабліва сказа, які мае дачыненне да пасла. Гэты сказ, узяты ў кантэксце — пакінуўшы ў баку недалікатны пасыл у адносінах да асабістага прадстаўніка прэзідэнта ЗША ў Рэспубліцы Беларусь, — мае на ўвазе, што пасол займаецца падрыўной дзейнасцю ў Беларусі. У залежнасці ад тлумачэння міністэрствам вышэйсказанага пасольства пакідае за сабой права вярнуцца да гэтага пытання ў будучыні або праз асобнае дыпламатычнае паведамленне, або праз публічную заяву. А пакуль пасольства жадае заявіць, што, як цытавалася, пасыл пана Данілава, прадстаўніка афіцыйных асоб Беларусі, у адносінах да пасла наўрад ці адпавядае заяўленаму жаданню ўрада Рэспублікі Беларусь падтрымліваць цесныя сяброўскія адносіны з ЗША.

Нота гэта датавана 22 красавіка, і не варта было б, магчыма, звяртацца да яе, калі б не адна акалічнасць. Паводле звестак, якія ёсць у БелаПАН, да гэтага часу (прынамсі, па стане на 25 мая 1993 года) Міністэрства замежных спраў не дало тлумачэнняў, якія патрабавала амерыканскае пасольства.

**ЭТНАГЕНЕЗ**

# СА СПАЗНЕННЕМ НА 20 ГАДОЎ

Навуковая канферэнцыя па этнагенезу беларусаў, якая павінна была адбыцца ў 1973 годзе і ў якой павінна была прагучаць вядомая цяпер тэорыя балцкага субстрату Валянціна Сядова, была забаронена, а апублікаваныя ўжо тэзісы пушчаны пад нож. Між тым, саму тэорыю тым самым знішчыць не ўдалося, яе цяпер падтрымлівае ўсё больш і больш беларускіх гісторыкаў, археолагаў, асабліва маладых. Яны і арганізавалі міжнародную канферэнцыю "Балты і этнагенез беларусаў", што прайшла ў Мінску 21 — 23 мая. У ёй прымалі ўдзел навукоўцы з Расіі, Украіны, краін Прыбалтыкі.

## ПІШУЦЬ СЯБРЫ МІЖНАРОДНАЙ АСАЦЫЯЦЫІ БЕЛАРУСІСТАЎ

У канцы мінулага года ў Сафіі, у Саюзе пісьменнікаў, мы арганізавалі юбілейны паэтычны вечар. Румяна Яўцымава выступіла з дакладам пра Якуба Коласа, Янку Купалу і Максіма Багдановіча. Перакладчыкі і паэты чыталі свае пераклады — новыя і старыя. Прагучалі пераклады А. Германава і І. Давыдкава. Такі ж вечар зрабілі потым у Габраве. На гэты раз пра паэтаў гаварыла я, а Найдзен Вылчаў чытаў свае пераклады. Вечар прайшоў на добрым узроўні.

**Венета ГЕОРГІЕВА-КОЗАРАВА.**
Габрава, Балгарыя.

Калі я пабачыў фатаграфію помніка Адаму Міцкевічу ў Наваградку, зробленую спадарыняй Эльжбетай Тамашэўскай, дачкой апошняга нясвіжскага ардыната, дык быў здзіўлены. Гэта быў другі ЖЫВЫ помнік, які я пабачыў...

Як вам вядома, да вайны я жыў у Слоніме. Пасля вераснёўскіх баёў з немцамі ў 1939 годзе перабраўся ў польскае войска ў Францыі, а пасля захопу Францыі — у Англію, дзе прэзідэнт Рэчы Паспалітай Уладзіслаў Рачкевіч, ранейшы наваградскі ваявода, паклікаў мяне сваім ад'ютантам.

Калі пасля вайны нашы землі былі запрададзены Сталіну, я мусіў застацца ў Англіі і выбраць іншую прафесію. А паколькі ведаў сем моваў, заняўся турыстыкай. У 1960—1970 гадах быў шэфам-інспектарам Амерыканскай аўтамабільнай асацыяцыі, кантраляваў турысцкія маршруты ва ўсёй Еўропе і Паўночнай Афрыцы. Таму бачыў усе прыгожыя помнікі.

Самы прыгожы, паводле майго меркавання, помнік Саванаролу ў Равене, у Італіі. Гэта ЖЫВЫ помнік. Саванарола з выцягнутай рукой і пальцам, які паказвае ў гледача, нібы прамаўляе і накіроўваецца да мяне.

Калі я пабачыў фатаграфію помніка Адаму Міцкевічу работы Валерыя Янушкевіча, мяне ахапіла тое ж адчуванне. Я нібы пачуў словы вешчуна: "Літва, мая Айчына, ты ёсць як здароўе..." Міцкевіч работы Валерыя Янушкевіча прамаўляе да мяне... Павялічаную фатаграфію спадарыні Тамашэўскай у рамцы я павесіў у сваім салоне, і яна кажа мне: "Літва, мая Айчына...", але гэта Літва Ягелы і Гедыміна, чыя мова была БЕЛАРУСКАЯ. Не жмудская, як тая, на якой сёння гавораць жыхары Коўна і Вільні, сцвярджаючы, што іх колішняя дзяржаўная мова была літоўскай. Можа, калі праўда выйдзе наверх. А тым часам вяшчун са свайго п'едэстала ў Наваградку загадвае нам сумаваць...

**Граф Ксаверы ПУСЛОЎСКІ.**

Фуэнгірола, Іспанія.

Паколькі ў вас ідзе цяпер дыскусія пра рэформу правапісу, і я хацеў бы зрабіць некалькі сваіх заўваг.

1. Рэформа — гэта ў першую чаргу перамена, змена звычаяў, звычак, навыкаў, прывычак. Людзі ахвотна трымаюцца звыклага, хоць часта і недасканалага, і з размаітых пунктаў погляду нявыгаднага, неэканомнага — абы не адыходзіць ад звыклай, навучонай, знаёмай сцежкі, абы не вучыцца новаму, нязвыкламу, мо і невядомаму. Прывычка — другая натура, рэйкі для цягніка, кальчуга войніку. А рэформа? Гэта значыць: трэба мяняць звычаі, перавясці цягнік на іншыя рэйкі.

2. Кожную мову (і бяспісьменную) магчыма запісваць рознымі знакамі, размаітымі відамі пісьма. Аднак трэба захоўваць рэгулярныя суадносіны паміж гучаннем мовы і яе запісам. Добрым прыкладам тут нам можа якраз служыць мова беларуская, якую пісалі пры дапамозе кірыліцы і гражданкі, лацінкі і арабіцы, якую ў наш тэхнічны век перадаюць і тэлеграфнымі знакамі Морзе, стэнаграфіяй, размаітымі фанетычнымі і фаналагічнымі транскрыпцыямі, навуковымі транслітэрацыямі і іншымі кодамі перадачы і запісу, да прыкладу кропкавым (шасцікропкавыя камбінацыі), пісьмом Брайля для сляпых. Знойдуцца і іншыя спосабы. Харвацкая мова спярша пісалася харвацкай глаголіцай, адным відам самага першага, сапраўды славянскага пісьма, айчынным варыянтам кірыліцы — басанчынай, арабскай матуфовіцай, размаітымі чужымі лацінкамі, аж пакуль не дайшлі да сённяшняй, сучаснай лацінкі-гайцы (паводле прозвішча Людавіта Гая, стваральніка яе ў XIX стагоддзі).

3. Тэхнічны бок справы. Важна, каб патрэбная колькасць знакаў давала б магчымасць не толькі запісваць мову, але і змяшчалася б на клавіятуры пішучай машынкі разам з лічбамі і знакамі прыпынку. Каб камбінацыі дапаможных знакаў не пярэчылі адна адной ні формай, ні зместам (сэнсам). Каб без перашкод іх можна было б далучаць да слоў ці камбінацый з "гатовымі" літарамі.

Канкрэтныя заўвагі па правапісу выкажу ў навуковай, мовазнаўчай публікацыі. Няхай яна паслужыць маім укладам у развіццё культурнага дабрабыту Беларускай рэспублікі ў галіне літаратурнай мовы і сродкаў зносін.

**Доктар Міласлаў ЗІМА.**

Прага, Чэхія.

**Выпісы зрабіла рэферэнт Міжнароднага камітэта беларусістаў А. БЕЛАВУСАВА.**

## *ПІСЬМЫ З-ЗА МЯЖЫ*

# НЕ КІДАЙ КАМЕНЕМ

Паважаная рэдакцыя "Голас Радзімы"!

Артыкул у "ГР" N 11 з дня 18.3.93 г. Яўгена Лецкі, старшыні Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", пад загалоўкам "Будзьма тактоўнымі і добразычлівымі, як дзеці аднаго народа" нагадаў мне тыя словы ў Божым законе, якія вымаўляюцца прыкладна так: "Калі хто кідае на цябе каменем, кінь на яго хлебам". Ці ж няпраўда, што мы "дзеці аднаго беларускага народа"? Таму мы павінны ўзброіцца ў шчырасць, сумленнасць, любоў, патрыятызм да свае нованароджанай Рэспублікі Беларусь, якую, трэба сказаць, нам скінуў Бог з неба. Нам, беларусам блізкага і далёкага замежжа, і беларусам на Бацькаўшчыне трэба быць удзячнымі і добразычлівымі да тых, якія ўзяліся за цяжкую і адказную працу згуртавання беларусаў з усяго свету і беларусаў на Радзіме ў адну сям'ю, нам трэба забыцца, адраджаючы Беларусь, хто ёсць вінаваты, а хто заслужаны. Трэба не аднаўляць ранаў, якія толькі што пачалі гаіцца. І не шукаць ворагаў беларушчыны, бо і ворагі могуць стацца нашымі прыяцелямі, калі ж мы будзем кіравацца Божым законам: "Калі ж вораг кідае на цябе каменем, кідай на яго хлебам".

**С. ШЧЭРБА.**

Англія.

# КАЛЬВАРЫЯ — АХВЯРА ВАНДАЛІЗМУ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

года. Потым яе закрылі. Размяшчаліся там і склад, і майстэрня. Толькі ў 1980 годзе касцёл пачаў зноў збіраць вернікаў на малітву.

Я была на Кальварыі шмат разоў. Таму магу сказаць з упэўненасцю, што з часам там з"яўляюцца новыя прыкметы дзікунства людзей. Як інакш можна назваць дзеянні, пасля якіх застаюцца могілкі са збітымі крыжамі, пашкоджанай агароджай. Асабліва гэта назіраецца ўздоўж цэнтральнай алеі, якая вядзе да касцёла. Уявіце сабе магілу з дарагім помнікам у некалькі ярусаў. Сёння вы чытаеце надпіс на ім, а праз некалькі дзён бачыце, што частка помніка валяецца на зямлі. Сёння вы бачыце крыж на магіле, а заўтра ён ляжыць за некалькі метраў ад яе. На помніках збіты і сарваны фатаграфіі. Я ніяк не магла зразумець, нашто злодзею чужы здымак. Мне растлумачылі людзі дасведчаныя. Забралі здымак — забяруць і помнік. А яго можна прадаць як дарагі камень ці як помнік для іншай магілы. Усё проста: трэба толькі змяніць здымак, збіць стары надпіс і зрабіць новы. Усе ведаюць, як нятанна сёння каштуе помнік. Вось і робяць некаторыя бруднымі рукамі на гэтым грошы. Некалькі разоў я была сведкай, як маладыя людзі хадзілі па пустэльнаму могільніку і пільна ўглядваліся ў крыжы. Гэта былі шукальнікі медзі, бронзы. Праўда, кажуць, што зараз не робяць крыжоў з гэтых металаў, імі толькі пакрываюць вырабы з больш танных. Але ж на Кальварыі могуць яшчэ застацца і бронзавыя крыжы на магілах мінулага і пачатку нашага стагоддзяў.

Кальварыйскія могілкі нагадваюць дзіцячы музей дзесьці ў ЗША. Помню, па тэлевізары паказвалі ў ім дзяцей, якім дазваляецца ўсё чапаць у музеі, разбіраць і збіраць пры жаданні экспанаты. Так і некаторыя людзі прыходзяць на могілкі. Стаіць ля касцёла статуя дзевы Марыі. Трэба паглядзець, што за яна. Не ведаю, як яе ламалі. Я ўбачыла ўжо адны толькі асколкі. Людзі пішуць на касцёле нецэнзурныя словы, малююць фашысцкую свастыку, знакі д"ябла. Хтосьці пагражае: "Усіх зарэжу". Надпіс зафарбоўваюць. Праз некалькі дзён з"яўляюцца больш канкрэтныя словы: "Зарэжу Альберта" (так завуць ксяндза). Потым дратуюць магілы святароў ля касцёла, падпальваюць падсобны будынак побач з ім. Вандалам не перашкаджае вартаўнік, які дзяжурыць на могілках ад пахавальнага бюро. Як і ніхто не перашкаджае выгульваць там сабак, ламаць калонку з пітной вадой.

## II

Гледзячы на людскі вандалізм, я абуралася. І пайшла да ксяндза Альберта, які служыць у кальварыйскім касцёле. Ад яго я дазналася пра такія здарэнні і ўчынкі людзей, што мне стала млосна. Вось што ён мне расказаў:

— Тое, што вы ўбачылі на могілках, — страшна. Але трэба ведаць, што людзі робяць з храмам. Нехта падпаліў імітацыю труны гасподняй. Была пашкоджана ікона. У час службы ў падсобным памяшканні парэзалі сутаны, залілі фарбай спавядальню. Мне ж да нядаўняга часу тэлефанавалі з пагрозамі. Пісалі ананімкі. У іх патрабавалі вызваліць чужое месца, якое я нібыта заняў. Потым высветлілася, што ўсё гэта рабілі некаторыя з прыхаджан.

Чыё месца вызваліць просяць ксяндза Альберта? Настаяцелем касцёла з"яўяецца ксёндз Ян. Але ён стары чалавек і службаў не праводзіць. Ксёндз Альберт у касцёле служыць усяго год. Дагэтуль 24 гады працаваў у Солах. Да яго на Кальварыі вёў набажэнствы Міхал Сапель. Зараз ён вядзе службы на Залатой горцы ў касцёле Святога Роха.

Тым часам Кальварыйскія могілкі і касцёл паціху разбураюцца ўжо некалькі гадоў. І касцёл бездапаможны перад злодзеямі і вандаламі. У ім нават няма сігналізацыі. За яе штомесяц трэба ўносіць 25 тысяч рублёў. Парафіі гэта не па сродках. Нанач у касцёле пакідаюць вартаўніка з прыхаджан. Дзяржава ж у гэтую справу не ўмешваецца.

Адбываецца, як у той прыказцы: царква гарыць, а людзі рукі грэюць. Нехта шкодзіць святыні, таму што дзікі чалавек і робіць гэта без пэўнай мэты. Другі робіць тое ж, каб адстаяць свае амбіцыі, і адначасова лічыць сябе веруючым. Чаго ж хацець ад людзей, далёкіх ад рэлігіі, калі тыя, хто лічыць, што жыве з Богам у душы, самі наносяць шкоду святыні, пагражаюць распраў ксяндзу?! Дарэчы, гэта не адзіны прыклад экстрэмізму веруючых.

## III

Ксёндз Альберт не скардзіцца на дзяржаўныя структуры, ён удзячны за любую дапамогу (напрыклад, за рамонт асвятлення, якога не было пэўны час ля касцёла). Мабыць, гэта звязана са звычкай, што дзяржава не ўмешваецца ў справы касцёла і царквы. А калі ўмешваецца, то не з дапамогай. А між тым і брама, і касцёл на Кальварыі ахоўваюцца дзяржавай як помнікі архітэктуры і культуры. У даным выпадку дзяржаву прадстаўляе выканком народных дэпутатаў Фрунзенскага раённага Савета. Дарэчы, будынак выканкома знаходзіцца на адлегласці не болей двухсот метраў ад могілак. У выканкоме я сустрэлася з яго галоўным спецыялістам па культуры Людмілай Навічонак. Калі я запытала, ці ведае яна, што робіцца на Кальварыі, Л.Навічонак папрасіла ўдакладніць, што я маю на ўвазе. Потым папрасіла назваць, якія канкрэтна помнікі пашкоджаны на могілках. Спачатку ў мяне склалася ўражанне, што выканкомаўскі чыноўнік добра ведае пра стан Кальварыі. Сапраўды, Л.Навічонак памятае, што выканком рэстаўрыраваў за свой кошт магілу Янкі Лучыны. Ведае пра фінансавыя складанасці выканкома: на культуру выдзелена 500 тысяч рублёў. З сродкаў выканкома дабаўлена 2,5 мільёна рублёў. Грошы патрэбны для бясплатных заняткаў дзяцей у гуртках. Аднак ад маёй упэўненасці не засталося і следу пасля адказаў на мае пытанні:

— Як выканком можа абараніць касцёл і браму ад пашкоджанняў?

— Брама ў нармальным выглядзе. Калі нешта здарыцца, мы, канешне, умяшаемся.

— Касцёл таксама ахоўваецца дзяржавай...

— Толькі брама. Каб не быць галаслоўнай, я пакажу вам дакумент.

І Л. Навічонак паказала мне паперу, дзе пералічаны помнікі горадабудаўніцтва і архітэктуры на тэрыторыі Фрунзенскага раёна. Сярод іх — комплекс Кальварыйскіх могілак (касцёл і брама). Выканкомы райсаветаў абавязаны ахоўваць помнікі. А на гэта, як вядома, асобна грошы не выдзяляюцца. Але пра якое захаванне можа ісці гаворка, калі галоўны спецыяліст па культуры не здагадваецца, што ў ягоныя паўнамоцтвы ўваходзіць ахова кальварыйскага касцёла. Сапраўды, нічога не змянілася ў нашым стаўленні да помнікаў культуры. У дзяржавы ніколі не было грошай на ахову помнікаў. Нават у часы, калі амаль усе дзеці і дарослыя былі членамі Таварыства аховы помнікаў і плацілі ўзносы. Гэта арганізацыя на здолела захаваць ні Мірскі замак, ні Нясвіж.

У любой цывілізаванай краіне пачаўся б скандал, калі б грамадскасць даведалася пра такую абыякавасць дзяржаўнага органа да сваёй справы. У нас жа ўсё ціха і глуха. Ці ж нармальна гэта, што мы не можам паклапаціцца пра сваю культурную спадчыну? Што ксёндз Альберт павінен спадзявацца на аўтарытэт папскага нунцыя ў дапамозе Кальварыі больш, чым на дзяржаву? Нешта зламалася ў нас, калі чалавек нібыта і пры сваім розуме, абэсціць магілы продкаў і падымае руку на храм.

Што з намі дзеецца? Ксёндз Альберт тлумачыць, што ўся справа ў выхаванні, якое было падпарадкавана ідэалогіі ваяўнічага атэізму. Але ж і веруючыя мала адрозніваюцца ад астатніх людзей у стаўленні да храма. І яшчэ ўзнікае адно пытанне: што такое чалавек, калі ўмовы ягонага жыцця могуць зрабіць з ім усё. Ён — аморфная маса, а выхаванне вырашае, якую форму ёй надаць. Калі ўжо я пачала з філасофіі Старажытнай Грэцыі, то варта ўспомніць і пра Арыстоцеля. Ён казаў: "Чалавек свабодны ў свядомасці і выбары". Арыстоцель лічыў, што чалавек робіць сябе сам. Прырода дае яму толькі здольнасць набываць дабрачыннасці. З гэтай пазіцыяй часта не пагаджаюцца, таму што лягчэй за ўсё ў кожным сваім учынку абвінавраціць людзей вакол сябе і абставіны.

**Алена СПАСЮК.**



**Ля касцёла на Кальварыйскіх могілках.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

# ВЯРТАННЕ

## ЖЫЦЦЯПІС БАРЫСА УЛАДЗІМІРАВІЧА КІТА



*Я маю край, радзіму дум сваіх...*

**А. Міцкевіч.**

Барыс Уладзіміравіч Кіт з тых людзей, якія ствараюць гонар любой нацыі ў любой краіне. На Беларусі да нядаўняга часу яго імя было амаль невядомым. Сёння мы павінны ўвесці навуковы, асветніцкі, жыццёвы набытак славутага ва ўсім свеце чалавека ў беларускую гісторыю.

Упершыню я ўбачыла Барыса Уладзіміравіча ў доме Масея Сяднёва пад Нью-Йоркам у Глен-Кове, куды ён заехаў на Каляды пад Новы 1992 год праведаць свайго старога сябра, знакамітага беларускага паэта на эміграцыі, калі кіраваўся з Франкфурта ў Вашынгтон да сваіх сыноў Валодзі і Віктара, унучкі і праўнука, незвычайна падобнага на свайго прадзеда. Мяне ўразіў малады, рухавы, абаяльны воблік Барыса Уладзіміравіча, яго цікавая імклівая гаворка на чыста беларускай мове, яго ўменне з матэматычнай дакладнасцю сказаць асноўнае пра сябе і незвычайна зацікавіць субяседніка менавіта гэтай сціплай недасказанасцю, за якой стаяла, адчувалася, незвычайнае жыццё. Як было радасна пачуць, знаходзячыся так далёка ад свайго дому, родную гаворку, даведацца, што гэта твой зямляк, які не быў на Бацькаўшчыне паўвека, але так закаханы ў сваю Наваградчыну, сапраўды найпрыгажэйшы і славуты куток Беларусі, які даў свету такія таленты, як Адам Міцкевіч, Тамаш Зан, Ігнат Дамейка, Ян Чачот, Уладзіслаў Сыракомля, Янка Нёманскі. Барыс Кіт — адзін з іх, і ён марыць зрабіць Навагрaдак універсітэцкім горадам, накшталт Оксфарда ці Кембрыджа...

Барыс Уладзіміравіч спяшаўся ў Вашынгтон, і ў мяне было замала часу, каб падрабязна распытаць, даведацца пра ягоны лёс. Але гэта была не апошняя наша сустрэча. Улетку мінулага года ўпершыню пасля 50-гадовага перапынку ён наведаў Бацькаўшчыну, дзе аказалася шмат яго вучняў, знаёмых, родных людзей, якія рады былі вітаць яго ў Маладзечне, Міры, Карэлічах, Навагрaдку, Мінску... Ускалыхнулася мінулае, пайшлі ўспаміны, задаваліся пытанні, і нястомны Барыс Уладзіміравіч не паспяваў адказваць, успамінаць, зноў знаёміцца з тымі, каго ведаў яшчэ ў дзяцінстве, юнацтве, падчас працы ў беларускім школьніцтве..."Проста не верыцца, што я мог прыехаць да вас, — гаварыў ён на сустрэчы. — Для мяне гэта найвышэйшы і найважнейшы момант усяго майго жыцця, вярнуцца на Бацькаўшчыну — Беларусь, дзе я правёў найлепшую яго частку — маладыя гады. Так сталася, што я, як і многія іншыя беларусы, у пэўным часе змушаны быў выехаць на чужыну, каб ратаваць сваё біялагічнае існаванне. Але на чужыне мы ніколі не забывалі сваёй Радзімы, прыносілі яе слаўнае імя ў свет і рабілі для яе карысці ўсё, што толькі было магчымым. На жаль, нас ужо вельмі мала засталося, і я сябе лічу "апошнім з магіканаў", маё пакаленне ўжо адыходзіць. Многія не дачакаліся гэтага шчаслівага моманту, калі пачаўся вялікі рух Адраджэння, і многія эмігранты — расійцы, украінцы, балтыйцы — атрымалі сёння магчымасць прыехаць на Бацькаўшчыну, якая стала незалежнай. Безумоўна, цяжкасці заўсёды бываюць напачатку, але я веру: пройдзе нейкі час, наша Беларусь разаўецца ў паўнацэнную, культурную, эканамічна моцную, незалежную дзяржаву, якая зойме пачэснае месца сярод народаў свету".



Бацька і маці (справа) Б. Кіта.

Гэта вера захапіла ўсіх, хто слухаў чалавека, пражыўшага доўгае, складанае і цікавае жыццё, багатае на выпрабаванні, падзеі, сустрэчы. Ён вярнуўся на Бацькаўшчыну, каб падтрымаць сваіх землякоў у цяжкі час выбару, апантаны, як і ўсе свядомыя беларусы, ідэямі адраджэння нацыі.

Так здарылася, што і на гэты раз не хапіла Барысу Уладзіміравічу часу з-за шматлікіх сустрэч, каб адказаць на мае пытанні, падрабязна расказаць пра сваё жыццё.

І вось у кастрычніку 1992 года я мела магчымасць наведаць Барыса Уладзіміравіча ў Германіі ў Франкфурце-на-Майне па яго ветліваму запрашэнню. Нішто ўжо не перашкаджала слухаць, запісваць найцікавейшы аповяд пра незвычайны лёс чалавека з агромністага касмічнага карабля "Зямля", які шмат зрабіў, каб гэты карабель вырваўся ў сусвет.

Дзякуючы яму, я пабывала ў славутых тургенеўскіх мясцінах Вісбадэна, у Бадгомбургу, дзе калісьці не адзін раз бываў Дастаеўскі, пабачыла радавое гняздо апошняй рускай імператрыцы Аляксандры Фёдараўны ў Дармштаце, старажытныя рыцарскія замкі, палацы, музеі, гадзінамі хадзіла па вуліцах Франкфурта, па Дому-музею Гётэ, да болю ў сэрцы дзівячыся, якое ўладкаванае, прыгожае і багатае жыццё, у адрозненне ад нашага, пераможаных намі пераможцаў... Але што руская і германская гісторыя, калі побач знаходзіўся беларус, які здолеў даказаць, што ён нічым не горшы за амерыканцаў, еўрапейцаў, чалавек глыбокіх і рознабаковых ведаў, з выдатнай памяццю на даты, сусветную гісторыю, людзей, літаратуру... І толькі аднойчы, калі Барыс Уладзіміравіч прачытаў мне цытату з "Веснавых вод" Тургенева (дзеянне адбываецца ў Вісбадэне, Санін — герой тургенеўскага твора, задумваецца аб сваёй старасці, а яму ўсяго 52 гады), мне падалося, што ён успомніў аб сваіх 82-х гадах. Аднак усе, хто сутыкаецца з Барысам Уладзіміравічам, разумеюць: старасць да яго яшчэ не прыйшла; аптыміст па натуры, добразычлівы да людзей, дзейны, мэтанакіраваны, ён напоўнены шчасцем вяртання на Бацькаўшчыну і жаданнем зрабіць для яе ўсё, што ў яго моцы. Закаханы ў сваю Джэму — Тамару, прыгожую, па-еўрапейску адукаваную жанчыну, з якой больш дваццаці год звязаны духоўнай еднасцю і з якой пабываў у многіх краінах свету, ён ідзе па жыцці па тых мясцінах, дзе любілі, пакутавалі тургенеўскія героі, руская арыстакратыя... Барыс Уладзіміравіч упэўнены, што ён і ёсць арыстакратыя — арыстакратыя духу, інтэлекту, а гэта нашмат мацней за тую, што губляла свае сілы, сродкі на модных еўрапейскіх курортах. І ён багаты і шчаслівы ад усведамлення, што не марна пражыў жыццё, годна несучы ў сэрцы Беларусь, не забываючы матчыну мову, не здраджваючы святому ў душы. Ён змог пабудаваць свой лёс так, што рана дасягнуў піка вучонасці, але і да гэтага часу застаецца верным свайму прызванню настаўніка, педагога і з асаблівым гонарам гаворыць пра слынных у свеце людзей: "Гэта мой вучань..." А можа шчаслівы таму, што ганарыцца сынамі, якім аддаў усё самае лепшае, што меў у жыцці, і цяпер не адчувае адзіноцтва ці магчыма таму, што яго імя і добрыя справы вяртаюцца на Радзіму, ад якой быў адарваны столькі гадоў? А можа ад складу свайго беларускага характару — бескарыслівага, шчырага, цярплівага, адкрытага, заўсёды гатовага рабіць людзям дабро... Гэтыя думкі ўзнікалі ў мяне падчас нашых вандровак па Германіі, дзе я часам ледзь паспявала за маладым, бадзёрым крокам Барыса Уладзіміравіча і за яго цікавымі апавяданнямі пра нямецкую гісторыю, не перастаючы здзіўляцца ягонай памяці, грунтоўным, шырокім ведам, і асабліва тым спакойным адносінам да казачнай прыгажосці Нямеччыны, за якімі стаіць жыццёвы вопыт чалавека, што аб'ехаў і пабачыў увесь свет — Стары і Новы — Еўропу, Амерыку, Індыю, Японію, Інданезію, Філіпіны, Марока, Туніс, Егіпет, Ганконг, Стамбул, які жыў у Вашынгтоне і Лос-Анджэлесе, ведаў знакамітых вучоных — нямецкіх, амерыканскіх, рускіх, японскіх, — якія стваралі касмічныя караблі і ракеты; матэматыкаў і фізікаў з сусветнымі імёнамі, таму што сам прысвяціў гэтым навукам жыццё, хаця не меншы талент меў у гісторыі, жывапісе, захапляўся класічнай музыкай і літаратурай, ніколі не ўступаў ні ў якія партыі, верыў, што душы даўно памёрлых добрых людзей перасяляюцца ў жывых, нават падобны на іх знешне. У гэтым ён пераканаўся, сустрэўшы аднойчы на вуліцы жанчыну, якая была незвычайна падобная на яго першае каханне — дзяўчыну з Беларусі, якая загінула ў пекле вайны...

Хто ж ён, гэты рамантык?

Барыс Кіт — матэматык, фізік, хімік, доктар філасофскіх навук у галіне матэматыкі і гісторыі навукі, акадэмік Міжнароднай Акадэміі Астранаўтыкі, старэйшы сябра амерыканскага Астранаўтычнага Таварыства, ганаровы сябра Брытанскага Міжпланетнага Таварыства, сябра Дырэктарыяту Нямецкага Астранаўтычнага Таварыства, сябра Камітэта Міжнароднай Акадэміі Астранаўтыкі (Парыж). Ён заслужаны прафесар Мэрылендскага універсітэта (ЗША), залаты медаліст Нямецкага Таварыства імя Германа Обэрта. Высока ацэнены ва ўсім навуковым свеце, ён вяртаецца на сваю Радзіму — Беларусь, дзе пра яго да апошняга часу нават не ўспаміналася. Але ён, не тоячы крыўды ў сэрцы, перапоўнены жаданнем адкрыць на Беларусі нацыянальны універсітэт, бо адсюль пачынаўся яго шлях у вялікае жыццё, шлях таленавітага педагога, вучонага, які ў літаральным сэнсе слова аддае свае веды людзям, бо, дасканала валодаючы ангельскай, нямецкай, французскай, польскай, рускай, украінскай, беларускай мовамі, ён у любым асяроддзі, з кожным чалавекам пачувае сябе лёгка і нязмушана, можа знайсці агульныя зацікаўленні і ўзаемаразуменне. Ён захаваў сваю беларускасць, народную, сялянскую разважлівасць, цярпімасць да розных палітычных поглядаў, што існуюць у адраджэнскім руху. Яго жыццё цесна знітавана з гістарычнымі падзеямі XX стагоддзя, жыццём беларускага народа, шляхамі-пуцявінамі беларускага інтэлігента, навукоўца, які, дзякуючы сваім прыроджаным здольнасцям, змог выйсці на сусветную арэну, захаваўшы вернасць нацыянальнаму духу, вернасць Бацькаўшчыне, якая зноў паклікала яго, як запавет, як памяць.



Б. Кіту 5 гадоў (Пецярбург).

**Лідзія САВІК**

## НАШЧАДАК СЯЛЯНСКАГА РОДУ

З дзядоў і прадзедаў Барыс Кіт паходзіць з вёскі Агароднікі Карэліцкай воласці Навагрaдскага павета (цяпер Агароднікі Карэліцкага раёна Гродзенскай вобласці Беларусі). Вёска Агароднікі сёння — прыгарад мястэчка Карэлічы, што ляжыць на вялікім шляху Вільня — Мінск, прыгожа абсаджаным вялікімі бярозамі яшчэ ад часоў расейскай імператрыцы Кацярыны Другой. Шлях Вільня — Мінск праз Карэлічы быў выбраны Пятром Вялікім падчас яго падарожжа ў Заходнюю Еўропу. Ён прыпыняўся ў Карэлічах, начаваў у хаце спадара Абяржанскага ў самым цэнтры мястэчка. Раней Карэлічы славіліся фабрыкай слуцкіх паясоў. Будынак гэтай фабрыкі яшчэ захаваўся ў тыя гады, калі сям'я Кіта пасля заканчэння першай сусветнай вайны жыла ў доме паблізу гэтай фабрыкі. Карэлічы, як і вёска Агароднікі, былі славутыя сваімі агародамі з агуркамі, што вырошчваліся на экспарт.

Дзед Барыса Уладзіміравіча — Аляксандр Кіта (дарэчы, кіта азначае вязанка, ахапка сена. Усе крэўныя вучонага носяць прозвішча Кіта, у прозвішчы Барыса Уладзіміравіча апошняе "а" праз шматлікія пераезды, пераафармленні дакументаў неяк выпала, згубілася, і ён вядомы як Кіт) меў невялікую гаспадарку ў Агародніках (каля 4-х гектараў зямлі), якая была падзелена на дзве роўныя часткі паміж двума сынамі — Міхасём і Уладзімірам. З-за недахопу сродкаў для ўтрымання сям'і, якая складалася з 7 чалавек — бацька, маці, два сыны, тры дачкі — Юлія, Вольга і Ганна, — дзед вымушаны быў шукаць дадатковага заробку ў суседнім, за 7 кіламетраў, маёнтку графа Храптовіча ў Шчорсах над ракой Нёман. Гэты маёнтак славіўся агромністай па тым часе бібліятэкай, дзе былі кнігі па розных галінах ведаў і на розных мовах. Бібліятэкарам тут працаваў Ян Чачот, яе кнігамі часта карыстаўся Адам Міцкевіч, калі жыў у Навагрaдку. Натхнёны незвычайнай прыгажосцю Шчорсаў, цудоўным паркам, які прывольна раскінуўся на берагах Нёмана, вялікі паэт напісаў нямала твораў, прысвечаных гэтаму краю. Палац Храптовічаў згарэў у полымі рэвалюцыі і войнаў, захаваўся толькі будынак бібліятэкі, растуць старыя дубы ў парку, бярозы на бальшаку, адрэстаўрыравана царква, у якой часта на малебнах бываў Аляксандр Кіта. Ён пачаў працаваць у графа Храптовіча звычайным парабкам, але, дзякуючы сваім гаспадарчым здольнасцям, добрасумленнаму і добразычліваму характару, у хуткім часе становіцца адміністратарам. З падрослых дзяцей Аляксандра Кіта двое — Юлія і Уладзімір (бацька будучага акадэміка) выехалі ў пошуках долі і шчасця ў сталіцу Расійскай імперыі — Санкт-Пецярбург, другі сын — Міхась застаўся жыць на гаспадарцы ў Агародніках, а дзве дачкі — Вольга і Ганна выйшлі замуж у суседнія вёскі.

Пасля пераезду Уладзіміра Кіта (ён скончыў сярэднюю школу) у Пецярбург на пачатку XX стагоддзя яму давялося шмат працаваць і адначасова вучыцца, набываць нейкую прафесію, прыстасоўвацца да гарадскіх умоў жыцця. Ён паступіў на курсы сувязістаў і пасля заканчэння гэтых студыяў уладкаваўся ў міністэрства пошт і тэлеграфаў. Яго паслалі на працу ў мястэчка Шувалава, якое знаходзілася на мяжы з Фінляндыяй. На гэты час Уладзімір Кіта ажаніўся з Ксеніяй Дзмітраўнай Зуравай, якая паходзіла з сялян вёскі Тупікава Кашынскага павета Цвярской губерні і таксама прыехала на працу ў Пецярбург. Тут, у доме на Суvoраўскім праспекце, у іх і нарадзіўся сын-першынец Барыс — 24-га сакавіка (6-га красавіка) 1910 года. Хрышчэнне яго адбылося ў царкве Смольнага манастыра.

(Працяг будзе).

## ВЫПУШЧАНА ВЫДАВЕЦТВАМ "ПОЛЫМЯ"

# НАМ ЗАСТАЛАСЯ СПАДЧЫНА

Сёння, бадай, як ніколі раней (у гэтым сэнсе можна хіба прыгадаць дваццатыя — пачатак трыццатых гадоў) узрасла цікавасць да выданняў, што дазваляюць беларусам задумацца, хто яны і адкуль, вярнуцца да сваіх вытокаў. Літаратура па краязнаўству на паліцах не залежваецца. Гэтаксама заслужаны інтарэс і да кніг па фальклору, розных падарожных нарысаў, напісаных у мінулым стагоддзі, а то і раней. Многія з іх выходзяць у рэспубліканскім выдавецтве "Полымя", а рыхтуе іх рэдакцыя краязнаўства, якую ўзначальвае Л.Круглова. Калектыў невялікі: яна і яшчэ пяць рэдактараў — В.Дрозд, Л.Мальцава, А.Саламевіч, П.Сушко, Т.Шумейка. Невялікі ды дружны, а галоўнае — апантаны ідэямі нацыянальнага адраджэння, заклапочаны, каб яно мела пад сабой трывалую духоўную аснову.

Менавіта рэдакцыя краязнаўства паклала пачатак міжвыдавецкай серыі "Літаратурныя помнікі Беларусі" (цяпер да гэтай важнай справы падключаецца і выдавецтва "Мастацкая літаратура"). У 1991 годзе ў гэтай бібліятэчцы з'явілася першая кніга — "Люд беларускі. Вяселле" М.Федароўскага. Да чытача прыйшлі апісанні гэтага народнага абраду, зробленыя вядомым польскім і беларускім этнографам у 70—80 гады XIX стагоддзя ў ваколіцах Слоніма, Дзятлава, Пружан, Ліды і ў іншых населеных пунктах.

Следам за ёю вярнуліся з небыцця "Вандроўкі па маіх былых ваколіцах" У.Сыракомлі. Са старонак іх ажывае побыт беларусаў, раскрываюцца іх звычаі. Дзякуючы У.Сыракомлю, можна зрабіць падарожжа ў колішнія Нясвіж, Стоўбцы, Койданава, Мір... Паўстаюць аблічччы нашых знакамітых землякоў — асветніка і выдаўца С.Буднага, філосафа С.Маймана, мастака Ю.Гескага, паэта А.Плуга. Гэтыя творы былі напісаны па-польску, таму іх адпаведна пераклалі на беларускую мову Я.Саламевіч і К.Цвірка.

"Падарожжа па Палессю і беларускаму краю" П.Шпілеўскага (выйшла нядаўна і адразу стала бібліяграфічнай рэдкасцю) апублікавана ў арыгінале. "Павел Шпілеўскі, — як слушна зазначае ў прадмове С.Кузняева, — стаў першым руска-беларускім пісьменнікам, які на ўвесь голас загаварыў на старонках рускага друку ад імя беларусаў". Нарадзіўся П.Шпілеўскі 12 лістапада 1823 года ў вёсцы Шыпілавічы пад Бабруйскам. На жаль, памёр зусім маладым, у кастрычніку 1861 года. След жа ў літаратуры і журналістыцы пакінуў вялікі. Найбольшую цікавасць з яго творчай спадчыны ўяўляюць гістарычныя і філалагічныя работы, у якіх закранаюцца розныя аспекты беларусазнаўства.

Не можа не прываблiваць і сама пазіцыя гэтага сумленнага чалавека, які хоць і пісаў па-руску, але ніколі не цураўся сваёй радзімы. Больш таго, менавіта П.Шпілеўскі паказваў прыклад і іншым дзеячам навукі, паварочваў іх, так сказаць, тварам да беларусаў. Прынамсі, у адной са сваіх прац ён пісаў: "Нас цікавяць вераванні старажытных грэкаў і рымлян, мы пішам аб іх норавах, міфалогіі, мове, нават гуляннях і абедах; чаму ж не пісаць аб роднай Беларусі, якая гэтак багатая сваімі самабытнымі норавамі, міфалогіяй, мовай і, нарэшце, абрадамі і святамі?"

Само ж "Падарожжа..." — гэта ўражанні, пачэрпнутыя падчас вандровак па Беларусі. Нішто не прайшло міма пільнага вока падарожніка. П.Шпілеўскі-этнограф, фалькларыст і П.Шпілеўскі-празаік (дарэчы, ён аўтар шматлікіх апавяданняў, аповесці "Цыганёнак") добра дапаўняюць адзін аднаго. Таму ў гэтых падарожных нарысах багацце фактычнага матэрыялу і разам з тым дыханне беларускага жыцця — маляўнічыя, пададзеныя пластычнымі фарбамі пейзажы, стылізаваныя пад народныя дыялогі, лірычныя адступленні. Адным словам, у "Падарожжы..." усё проста дыхае Беларуссю!

Тым больш важна, што нарэшце гэты твор, на якім выхоўвалася не адно пакаленне беларусазнаўцаў, прыйшоў да сучаснага чытача. Пасля першай публікацыі ў часопісе "Современник" (1853—1855), выхаду асобным выданнем у Пецярбургу (1858), на жаль, ён на Беларусі цалкам не перавыдаваўся. Выключэнне — ўрыўкі, апублікаваныя ў перакладзе на беларускую мову М.Гарэцкім у яго "Хрэстаматыі па беларускай літаратуры", раздзел "Мінск беларускі", змешчаны ў кнізе Г.Кісялёва "Пошукі імя".

Не заляжыцца ў магазінах, несумненна, і кніга А.Цітова "Пячаткі старажытнай Беларусі", якая мае падзагаловак "Нарысы сфрагістыкі". Сфрагістыка — гэта і ёсць навука, якая займаецца вывучэннем пячатак, ужываецца, хоць і радзей, і другі тэрмін — сігілаграфія. Па сутнасці выйшла свайго роду міні-энцыклапедыя аб пячатках. Упершыню з'явілася выданне, дзе прасочваецца гісторыя ўзнікнення і развіцця гэтых помнікаў нацыянальнай культуры. Так, помнікаў, і здзіўляцца тут няма падставы. Бо, дзякуючы пячаткам, шмат можна даведацца пра тое, як жылі людзі раней, якія стасункі між імі існавалі, нарэшце, праз іх прыгадваем мы і многіх самавітых асоб, і выдатных дзеячаў.

Урэшце, ілюстрацыйны матэрыял надзіва багаты — звыш 500 фотаздымкаў і малюнкаў, зробленых самім А.Цітовым, пры тым большасць з іх друкуецца ўпершыню. А хіба не цікава (а галоўнае, пазнавальна!) паглядзець, якімі былі пячаткі Ефрасінні Полацкай, Сімяона Полацкага, полацкага князя Глеба і іншых людзей, што сталі ля вытокаў нашай дзяржаўнасці? Ды і ў пазнейшыя перыяды не лішнім будзе зазірнуць.

Калі А.Цітоў у гаворцы карыстаецца навуковай тэрміналогіяй, яго мова, як таго патрабуе жанр, акадэмічная, дык А.Хатэнка ў кнізе "Зніч нашай памяці" піша лёгка, раскавана. Асобныя мясціны нагадваюць паэзію ў прозе. Эмацыянальнасць аўтара зразумелая. Захоплена, усхвалявана расказвае А.Хатэнка пра абрады, што толькі праз сем дзесяцігоддзяў зноў атрымалі права на жыццё. Зніч памяці — агонь у гонар тых, хто памёр. Агонь, якому наканавана вечнасць. Вечнасць, калі мы пазбавімся беспамяцтва, навучымся размаўляць з адышоўшымі, як з жывымі... Зрабіць жа гэта не так і складана, дастаткова толькі прыслухацца да народных звычаяў. Тады можна адчуць, што на гэтай грэшнай зямлі нішто не праходзіць бясследна. Вера ў замагільнае жыццё? Не, вера ў тое, што чалавек жыве датуль, пакуль яго памятаюць. Жывуць людзі — жыве і народ. А значыць, жыве і Беларусь!

"Пакланіся дубу" — так назваў сваю кнігу А.Ненадавец. Зноў жа вяртанне ў міфалогію, да забытых абрадаў. Продкі ж нашы асабліва шанавалі гэтае магутнае, а ў нечым і загадкавае дрэва. Шанавалі яго і пакланяліся дубу. Аўтар сістэматызаваў шматлікія матэрыялы, што ўвогуле раскрываюць культ дрэва. Гэта і выказванні вядомых фалькларыстаў, пісьменнікаў, і ўрыўкі з мастацкіх твораў, а таксама з фальклору. Калі ж шырэй — паўстае сама стыхія народнага жыцця, а вера людзей успрымаецца той жыццядайнай сілай, што дазваляла ім выстаяць на самых віхурных паўстанках часу ды і, няма сумнення, стане падтрымкай ім цяпер. Калі, безумоўна, не страчваць гэтай святой веры.

Сталася так, што ўслед за першай кнігай А.Ненадаўца з'явілася і другая — "Крэпасць на Бярэзіне". На гэты раз падрабязна расказваецца пра унікальны помнік фартыфікацыйнага мастацтва пачатку XIX стагоддзя. Узнаўляюцца абставіны будаўніцтва Бабруйскай крэпасці, можна пазнаёміцца з яе колішнім гарнізонам, даведацца пра дзекабрыстаў, якія служылі тут, вярнуцца да падзей вайны 1812 года.

Рэдакцыя краязнаўства — ініцыятар і серыі "На зямлі Беларусі ў згодзе". Як вядома, здаўна на нашай зямлі жывуць прадстаўнікі самых розных народаў. Кожны ж з іх мае сваю багатую культуру, традыцыі, разам з тым відавочна, што гэтыя народы аказваюць пэўны ўплыў і на развіццё беларускай нацыянальнай культуры, як і тая, у сваю чаргу, жывіць іхнюю культуру. Першай у згаданай серыі пабачыла свет кніга В.Тугая і А.Галавача "Тут песні Даўгавы гучалі", у якой раскрыты шматвяковыя ўзаемасувязі беларускага і латышскага народаў. Назва ж кнігі С.Думіна і І.Канапацкага сама гаворыць за сябе — "Беларускія татары: мінулае і сучаснасць". Ахоплены перыяд з XIV стагоддзя, калі татары ўпершыню з'явіліся на землях Вялікага Княства Літоўскага, і па сённяшні дзень. Асабліва цікавыя раздзелы, прысвечаныя традыцыям і побыту гэтага народа. Не абыдзены ўвагай і праблемы нацыянальнага адраджэння татар.

Нашых суайчыннікаў за мяжой, бадай, цікавіць, якімі ж новымі кнігамі парадуе выдавецтва "Полымя" ў бліжэйшы час? Ды шмат якімі... Адна з іх, між іншым, пра беларускую дыяспару — "Замежная Беларусь" Л.Пранчака. У ёй змешчаны творчыя партрэты найбольш вядомых прадстаўнікоў беларускай культуры ў Злучаных Штатах Амерыкі, Аўстраліі, Канадзе, Францыі, Вялікабрытаніі, расказваецца пра эміграцкія выданні, розныя арганізацыі, установы. Бадай, ці не ўпершыню замежжа так наблізіцца да Бацькаўшчыны.

Позірк жа В.Чаропкі ("Імя ў летапісе") сягае ў сівую даўніну. Паўстаюць аблічччы Рагвалода, Святаполка Тураўскага, Усяслава Чарадзея, Глеба Менскага, Міндоўга і іншых князёў, чыю ролю ў станаўленні беларускай дзяржаўнасці цяжка пераацаніць. Няма патрэбы нагадваць, як шмат "белых плям" у адлюстраванні гэтага перыяду нацыянальнай гісторыі. Тым больш ухвальны памкненні В.Чаропкі, які, выкарыстоўваючы багаты фактычны матэрыял (у тым ліку і ўведзены ў шырокі ўжытак упершыню), па-свойму тлумачыць шмат якія падзеі. У прыватнасці, барацьбу Полацкага княства за незалежнасць, вайну Вялікага Княства Літоўскага з Тэўтонскім ордэнам, Маскоўскай дзяржавай, Польшчай.

Папоўніцца новымі выданнямі і міжвыдавецкая серыя "Нашы славутыя землякі". У.Касько ("Шукаю папараць-кветку") знаёміць з жыццём і дзейнасцю беларускага фалькларыста, этнографа, мовазнаўцы і публіцыста К.Сержпутоўскага. А.Падліпскі ("Летапісец Віцебшчыны") — з беларускім гісторыкам А.Сапуновым, які асабліва шмат зрабіў для вывучэння Полацка-Віцебскага краю. Ва ўсім свеце вядомы першы рускі консул, расійскі консул у Японіі Юсіф Гашкевіч, які валодаў трынаццаццю замежнымі мовамі, склаў японска-рускі слоўнік. А І.Гашкевіч родам з Беларусі. Пра гэтага выдатнага чалавека кніга У.Гузанава "Адысей з Беларусі". Ф.Ігнатовіч ("Уладзіслаў Борзабагаты") узнаўляе аблічча паплечніка К.Каліноўскага. Урач па прафесіі, ён у час паўстання 1863—1864 гадоў быў рэвалюцыйным камісарам Наваградскага павета, а пасля эміграцыі, у дні Парыжскай камуны, — медыкам шпіталя камунараў.

Думаецца, не пройдуць міма чытацкай увагі і такія кнігі, як "Музыка беларускіх вячорак" В.Берберава, "З невычэрпных крыніц народнай творчасці: сучасны беларускі габелен" Т.Гаранскай, "Сэрца старога Мінска" У.Дзянісава і іншыя.

Выдавецтва, як бачым, нягледзячы на цяжкае матэрыяльнае становішча, знаходзіць сродкі, каб своечасова выпускаць кнігі, патрэбныя кожнаму свядомаму беларусу. Каб жа стаць свядомым — іх неабходна чытаць.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

## АПЛАДЫСМЕНТЫ ЗАМЕСТ ТОРТА...

У Іспаніі існуе закон, які забараняе эксплуатацыю дзіцячай працы. Міжвольным яго парушальнікам стаў... беларускі оперны тэатр. Справа ў тым, што ў спектаклі "Мадам Батэрфляй", які ён паказваў на замежных гастролях, іграла юная Ганна Кулік.

Захопленыя паклоннікі беларускіх спевакоў са здзіўленнем паказвалі на дзяўчынку, якая ішла з тэатра да аўтобуса. Але нехта з гледачоў рассеяў іх недаўменне: "Гэта не дзіця, а актрыса". І маленькая мінчанка з уласцівым ёй пачуццём уласнай годнасці спакойна адказвала на прывітанні, гэтак жа, як зусім нядаўна выходзіла на паклоны пасля спектакля.

Аня нават па прызнанню мамы, Наталлі Кузняцовай, паводзіла сябе проста ідэальна. Лёгка пераносіла цяжар далёкага падарожжа, у аўтобусе іграла, смяялася, як і належыць у яе ўзросце. Праўда, у той час, калі канчаліся спектаклі, усе іншыя дзеці ўжо даўно спалі: гэта была ўжо глыбокая ноч.

Дарэчы, на гастролях Ганне споўнілася шэсць гадоў. У падарунак на дзень нараджэння яна атрымала вельмі прыгожы шакаладны торт. Толькі вось пакаштаваць яго не паспела: нехта спакусіўся на гэты твор кандытарскага мастацтва. Прапажа падарунка не вельмі засмуціла дзяўчынку. Ёй больш спадабаліся апладысменты і вельмі цікавае падарожжа разам з выдатнымі спевакамі.

**Г. ПАЎЛАВА.**



**Тэатр юнага гледача сталіцы паказаў спектакль "Каля адвечнага парога..." па творах Уільяма Люса "Чараўніца Амхерста" і Алы Саскавец "Ля свайго парога". Выканаўца роляў Эмілі і Кацярыны — Рыма Маленчанка. Аўтар сцэнічнага варыянта і рэжысёр-пастаноўшчык — Зінаіда Пасюціна. Мастак-пастаноўшчык — Дзмітрый Мохаў.**

**НА ЗДЫМКУ: Рыма МАЛЕНЧАНКА ў ролі Эмілі.**

**Фота У. КРУКА.**

## ПАМЯЦІ МАКСІМА

У Свята-Петрапаўлаўскім саборы ў Мінску адбылася паніхіда памяці Максіма Багдановіча.

Так дырэкцыя музея і беларуская інтэлігенцыя адзначылі 76-ю гадавіну смерці паэта.

## ПЕРАКЛАДЗЕНА ЯНАМ ПЯТРОЎСКІМ

# ДРУГОЕ ВЫДАННЕ ДЭКЛАРАЦЫІ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА

У горадзе Гейнсвіл штата Фларыда (ЗША) выйшла з друку асобнай кніжкай "Унівэрсальная Дэклярацыя Правоў Чалавека". На беларускую мову пераклаў яе і апрацаваў беларус-эмігрант Ян Пятроўскі. Ён з"яўляецца і выдаўцом кніжкі.

Акрамя тэкста Дэкларацыі правоў чалавека, змешчаны тут і вялікі артыкул спадара Пятроўскага, які мае назоў "У змаганьні за правы чалавека". У ім аўтар грунтоўна разглядае гістарычны шлях чалавечага змагання за сваю свабоду, годнасць і правы. А пачынаецца ён ад старажытнага дакумента — Кодэкса Гамурабі, які, як падкрэслівае Ян Пятроўскі, на тыя часы "быў зборнікам справядлівага і гуманітарнага права".

Пасля аўтар спыняецца ў сваім уступным слове на рэформах Салёна, Рымскім праве, а таксама іншых дакументах, якія абаранялі правы чалавека. Не абмінуў Я.Пятроўскі і Статут Вялікага Княства Літоўскага і яго "галоўнага рэдактара і кадыфікатара права і выдаўцы" Льва Сапегу.

Што датычыць сённяшняй Дэкларацыі, дык гэта, кажучы словамі Яна Пятроўскага, "сумесны праўны твор для карыстаньня народамі, якія напісалі яго з мэтай асягненьня справядлівага і годнага жыцьця на нашай Зямлі. З гэтае прычыны Дэкляэрацыя павінна чытацца ўсімі людзьмі, вывучацца кожным чалавекам, навучацца на памяць у школах. Яе трэба ведаць, на яе трэба паклікавацца і спасылацца пры кожнай нагодзе і цытаваць у публікацыях, каб гэткаю дарогаю "Унівэрсальная Дэклярацыя Правоў Чалавека" сталася жывым дзеючым творам, вытокам веры ў поступ, што вядзе да справядлівасьці, роўнасьці і годнасьці чалавека".

Да ўсяго сказанага вышэй хочацца дадаць, што гэта ўжо другое выданне "Дэклярацыі..." пад рэдакцыяй Яна Пятроўскага.

**С.ЧЫГРЫН.**

## СВЯТА СЛАВЯНСКАЙ ПІСЬМЕННАСЦІ

Дзень 24 мая трывала ўвайшоў у наш каляндар як свята славянскай пісьменнасці і славянскіх культур. Менавіта гэтай падзеі быў прысвечаны вечар у Беларускім таварыстве дружбы. Праводзіўся ён па ініцыятыве таварыстваў дружбы Беларусі з Балгарыяй, Польшчай, Расіяй, Украінай, Чэхіяй і Славакіяй. Ва ўрачыстасцях прынялі ўдзел прадстаўнікі пасольстваў Польшчы, Балгарыі, Расіі, Украіны, навуковай і творчай інтэлігенцыі, грамадскасці Беларусі.

— На Беларусі, — сказаў старшыня рады таварыства “Беларусь — Балгарыя” прафесар Генадзь Цыхун, — гэта яшчэ і свята Адраджэння, таму што звязана яно не толькі з успамінамі аб стваральніках славянскай азбукі Кірылу і Мяфодзіі, але і з імёнамі вялікіх беларускіх асветнікаў Францыска Скарыны, Кірылы Тураўскага, Ефрасінні Полацкай, Сымона Буднага, Сімяона Полацкага.

Прыведзеныя словы асветніка І.Сразнеўскага сталі лейтматывам усяго вечара: “Мы павінны любіць славянства ва ўсім яго абліччы, таму што мы славяне; без гэтага мы не можам мець сапраўднай любові, сапраўднай павагі да саміх сябе: гэта доўг маралі, прамы наш чалавечы доўг, доўг любові роднага да роднага, брата да брата”.

Выступіўшыя затым пісьменнік Алесь Петрашкевіч, акадэмік Балгарскай акадэміі навук Георгій Блізнакоў, паэт Сяргей Панізьнік, міністр адукацыі Віктар Гайсёнак адзначалі, што святы, падобныя на гэта, збліжаюць усе славянскія народы. Нягледзячы на цяперашнія цяжкасці, усё стане на сваё месца, таму што наша сіла — у нашым адзінстве. Народы, якіх зблізілі браты — асветнікі Кірыл і Мяфодзій, заўсёды імкнуліся да самастойнасці і незалежнасці. Сёння суверэнная Беларусь паказвае прыклад брацкіх адносін, у першую чаргу з усімі славянскімі народамі.

Цікавай была і мастацкая частка вечара. Вучні мінскай гімназіі N 198, дзе славянскае брацтва ўжо рэалізуецца на практыцы, выканалі вершы і песні на некалькіх славянскіх мовах. А калі закружыліся ў танцы, нават дыпламаты не стрымаліся — пусціліся ў скокі.

Завяршыўся вечар выступленнем ансамбля “Агмень” цэнтра этнаграфіі і фальклору Цэнтральнага раёна Мінска, мастацкім кіраўніком якога з”яўляецца Алена Рашчынская.

**В. ВАСІЛЬЕЎ.**



**“Габелен веку” стварае народны мастак Беларусі Аляксандр Кішчанка. На ім будуць прадстаўлены палітыкі і грамадскія дзеячы многіх краін свету. Памер габелена — 14x7 метраў. “Я належу да трох культур”, — сцвярджае Аляксандр Кішчанка. І, сапраўды, нарадзіўся майстар у горадзе Багучар Варонежскай вобласці. Займаўся ў мастацкім інстытуце ў Львове. З 1964 года працуе ў Беларусі. Яго работы вядомыя ў многіх краінах. У Мінску мазаіка Кішчанкі ўпрыгожвае тарцы жылых дамоў у мікрараёне Усход-1. Яго габелены — у будынку Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, у Дзяржаўным тэатры оперы і балета, у Мінскім музычным вучылішчы. Твор “Чарнобыль” падараваны Арганізацыі Аб”яднаных Нацый. Нядаўна мастаку споўнілася шэсцьдзесят гадоў. Ён поўны творчых сіл і новых цікавых задум.**

**НА ЗДЫМКУ: народны мастак Беларусі Аляксандр КІШЧАНКА.**

**Фота У. МЯЖЭВІЧА.**

# ЦІ ЛЁГКА ВЯРНУЦЦА З ВЫРАЮ...

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

болей не займаецца. Хачу расчараваць тых, хто так мяркуе. Асабіста ў мяне часу заўсёды не хапае. Мушу весці вялікую навуковую работу — кірую навуковай праграмай “Славяне Усходняй Еўропы. Чалавек у этнакультурнай прасторы”. Выкладаю музеязнаўства ў Інстытуце культуры, вяду семінары ў С.-Пецярбургскім універсітэце. Удзельнічаю ў распрацоўцы вучэбнай праграмы для беларускага класа пры Славянскім ліцэі, адчыненым год таму ў Санкт-Пецярбургу. Апроч таго рэгулярна выязджаю ў экспедыцыі на Палессе. Пасля чарнобыльскай аварыі меўся адлаведны перапынак, але мы ўжо з’ездзілі са студэнтамі ў Веткаўскі і ў Маларыцкі раёны. У гэтым годзе збіраемся на Валынь.

**— Што даюць вам экспедыцыі! Напэўна, вашы славутыя папярэднікі, такія, як Раманаў ці Сержпутоўскі, сабралі ўсё, што маглі, ды раней і збіраць было куды лягчэй!**

— У нейкім сэнсе так. Іхнія знаходкі, зробленыя на пачатку стагоддзя, гэта практычна 50 працэнтаў калекцыі, якую мае музей. Шмат экспанатаў падаравалі даследчыкі Беларусі Карскі, Янчук, Харузіна і іншыя, але, зразумейце, ніводзін даследчык не здольны ахапіць усё, чым багаты наш край, і працы там — не толькі нам, а і беларускім этнографам — хопіць на доўгія гады. Я ўвогуле лічу, што той, хто не пабываў на Палессі, не можа мець поўнага ўяўлення аб тым, што такое культура беларусаў, культура славян увогуле. Палессе — яшчэ не распрацаваная ніва для этнографаў.

**— А ці здольна яно зрабіцца “беларускім П’емонтам”, як сцвярджаў у “Чырвонай змене” віленскі гісторык Юры Шаўцоў!**

— Мне здаецца, не. Беларускі менталітэт захаваўся (адносна) больш на Наваградчыне, Міншчыне, Полаччыне. А Палессе — самабытнае ўтварэнне, і блытаць яго з іншымі не трэба. Тым больш лічыць, што яно можа зрабіцца пляцоўкай для адраджэння нацыі. Ідэя Шаўцова — знешне прыгожая і вельмі эмацыянальная, але ўсё-ткі не навуковая канцэпцыя. Дзяржава будуецца па-над этнічнымі параметрамі.

**— Але ж вы і самі не адмаўляеце, што Палессе дае вам многае!**

— Гэта іншая справа. Я вывучаю культуру, а не палітыку, і Палессе ў гэтым сэнсе больш цікавае для славян увогуле, чым для беларусаў. Тая праграма, якую мы зараз стварылі (“Славяне Усходняй Еўропы”), якраз і ўлічвае гэты аспект. Мы разглядаем Беларусь не ў супольнасці колішняга Саюза і не як адзінкавую з’яву, вартасную саму па сабе, а ў супольнасці з Усходняй Еўропай, і калі зірнуць на нашу беларускую гісторыю, то мы даўней мелі больш сувязяў з Еўропай, чымся з Усходам, з Масковіяй, хаця і былі блізкія да яе. Створаная намі праграма прадугледжвае 16 мабільных выстаў па розных аспектах культуры (тканіна, ганчарныя вырабы, прылады працы, рэчы побыту і г.д.). Мне вельмі па душы стварэнне ў Мінску Усебеларускага Дома, але я не зусім згодзен з Адамам Мальдзісам: Скарынаўскаму цэнтру, як, дарэчы, і Мінску, не трэба рабіцца музеем. Гэта, канечне, перабольшванне ці нават метафара. Але другі шлях бачыцца мне больш перспектыўным. Музей у Скарынаўскім цэнтры (ці ва Усебеларускім Доме) лепей разглядаць не як музей у звычайным сэнсе гэтага слова, не як спробу сабраць тыя ці іншыя экспанаты і “закансерваваць” іх навечна, а як цэнтр асэнсавання прадметнага свету культуры Беларусі і займацца ў гэтым цэнтры не столькі фундаментальнымі даследаваннямі, якія патрабуюць і шмат часу, і шмат выдаткаў, колькі сінтэзам розных накірункаў культуры, навукі, распрацоўваць новыя методыкі, акумуляваць новыя ідэі, гіпотэзы. І — побач з гэтым! — рабіць выставы ці экспазіцыі, якія будуць мяняцца, скажам, праз год ці паўтара, а да іх — прымяркоўваць пэўныя канферэнцыі, семінары і г.д.

**— Значыцца, вы лічыце, што тыя каштоўнасці, якія сабралі вашы папярэднікі (Раманаў, Карскі), так і павінны захоўвацца там, дзе яны зараз ёсць, і вяртаць іх Беларусі не трэба!**

— Пра вяртанне ўсёй калекцыі цалкам не можа быць і гаворкі. Экспанаты яе збіраліся, вядома, на Беларусі, але гэта не быў рабунак, падобны да таго, калі гвалтоўна вывозіліся царкоўныя рэліквіі, святыні ці творы мастацтва: карціны, скульптуры і г.д. Тое, што сабралі нашы папярэднікі, — гэта найперш набытак навукі, і гэты набытак трэба шанаваць. Вартасць славянскай калекцыі, якая налічвае 100 тысяч адзінак захавання (беларуская яе частка — звыш 6 тысяч адзінак), яшчэ і ў тым, што яна збіралася паперад усіх войнаў — і 1914-га, і грамадзянскай, — і парушаць яе альбо разбураць ці дзяліць на часткі — проста немэтазгодна. Як навуковая калекцыя, яна выконвае сваю ролю і з’яўляецца найлепшым дапаможнікам не толькі для даследчыкаў Беларусі, але і для вучоных усяго свету, якія цікавяцца славянамі ці, прынамсі, беларусамі. Усе астатнія музеі — у Мінску, іншых гарадах Беларусі — ствараліся пасля вайны, і таму калекцыі іх шмат у чым няпоўныя. Многа шкоды прынесла і чарнобыльская катастрофа: на нашых вачах гіне глыбінны пласт культуры — ідзе непазбежны працэс перасялення, і захаваць тое, што засталося, усё цяжэй і цяжэй.

**— Дык што, няхай Беларусь застаецца з тым, што мае!**

— Яна будзе мець болей, калі добра прадумае сваю палітыку культурнага і нацыянальнага адраджэння. Калі зірнуць цвяроза, то куды, скажам, дзенецца тая калекцыя Этнаграфічнага музея, якую мы, да прыкладу, перададзім? Ці знойдзецца на Беларусі адпаведнае месца, адпаведныя ўмовы захавання, ці знойдуцца спецыялісты, якія будуць захоўваць яе належным чынам? На ўсе гэтыя пытанні можна даць пакуль што толькі адмоўны адказ, і не трэба тлумачыць, чаму ён будзе адмоўным.

Калекцыю нашага музея па многіх параметрах зручней захоўваць там, дзе яна зараз знаходзіцца, але... трэба зрабіць яе яшчэ больш даступнай! Каб не было аніякіх абмежаванняў пры знаёмстве з ёю, асабліва з той яе часткай, якая знаходзіцца ў сховішчах.

І яшчэ адзін немалаважны аспект гэтага пытання. Ніколі не трэба кідацца ў крайнасці, маўляў, давайце забяром усё, што наша, і тады, як у казцы, адразу адродзіцца і наша культура, і наша нацыянальная свядомасць.

Вяртаць трэба толькі тое, без чаго яна не здолее існаваць. А вось **што вяртаць** — залежыць ужо не ад нашай нацыянальнай пыхі, а ад яснага разумення таго, чым сілкуецца народ, яго гісторыя і культура, карацей, ад узроўню развіцця навукі па гэтых пытаннях. І вось тут большую карысць прынясуць не гора-палітыкі, а спецыялісты вышэйшага ўзроўню, якім знаёмы ўсе тонкасці такога працэсу, якім знаёмы ўрэшце прафесійныя сакрэты не толькі пры вызначэнні каштоўнасці скарбаў, але і іх захавання.

Збіраць можна і на Бацькаўшчыне. І не без поспеху! Здолелі ж у Глыбокім знайсці і даўнейшыя рэчы побыту, і нават карціны, што валяліся па застрэшшах ці на гарышчы, і стварыць першы на Беларусі Дом рамёстваў! А хіба іншыя вёскі ды паселішчы бяднейшыя на даўніну?! Бяднейшыя, пэўна, на шчырых, зацікаўленых у сваёй справе людзей.

Разумею, што гэта эмоцыі. Але і яны іншы раз прыносяць карысць. Давайце ж будзем часам і эмацыянальнымі, застаючыся пры ўсіх нашых якасцях найперш спецыялістамі ў той справе, якой мы вучыліся і якой аддаём цяпер усе свае сілы.

**— Той, хто чуў бы нашу гутарку, напэўна, вельмі здзівіўся б, што мы вядзём яе пераважна па-руску. Але — дзіўная справа: размаўляючы са мной па-руску, вы некалькі разоў ужывалі беларускія словы. Гэта што: тое, што вы не змаглі пераадолець у сабе, — вашы полацкія карані ці што іншае!**

— Па-першае, мы вялі размову пра Беларусь, а як тут абыдзешся без таго, каб не назваць тое, што ўжо мае назву ў нашай мове, якраз так, як і належыць. Я ведаю мову, і калі бываю ў Мінску ці на Палессі, размаўляю па-беларуску. А тут, у Піцеры, я адчуваю сябе болей навукоўцам, чым беларусам. Рускае асяроддзе, у якім я знаходжуся, пэўныя навуковыя традыцыі вымагаюць ужываць рускую, што я і раблю.

**— А на суполцы! Чаму там ад вас так рэдка можна пачуць беларускае слова! Нават тыя, хто даўно прыехаў сюды, імкнуцца, хай і з памылкамі, гаварыць са сваімі сябрамі па-беларуску, а вы, нібыта знарок, гаворыце з намі па-руску.**

— Гэта тое самае, што я вам казаў раней: на суполцы я выконваю пэўную сацыяльна-культурную функцыю — з’яўляюся асветнікам, носьбітам ведаў. І яшчэ я лічу, што ў Санкт-Пецярбургу нельга стварыць такога сапраўднага беларускага асяроддзя, у якім беларуская мова з’яўлялася б натуральнай. У тым, чым мы займаемся на суполцы — дзелімся ўражаннямі, ведамі і г.д., — прысутнічае элемент гульні, элемент усвядомленага выбару. А з культурнымі традыцыямі нельга гуляць ані ў якія гульні: яны разбураюць гэтыя традыцыі. Асабіста для мяне беларуская мова — святыня, і я не хачу, каб яна рабілася цацкай.

**— Але ж гульня, як вы ведаеце, — перадаснова ўсёй чалавечай дзейнасці. Калі дзіця не навучыцца гуляць, то з гэтага дзіцяці не вырасце чалавек, здольны лёгка і свабодна аперыраваць самымі складанымі паняццямі, з якімі ён сутыкнецца не толькі на працы, але і ў жыцці. Можа, якраз гэта гульня і дапаможа некаторым з нас вярнуцца да сваіх каранёў. Помніцца, у свой час мы таксама гулялі ў інтэрнаце ў дзіўнаватую на першы погляд**



**гульню — дамовіліся плаціць за кожнае ўжытае намі рускае слова дзесяць капеек. Гульня — гульнёй, а праз месяц тыя “штрафы” нам ужо не спатрэбіліся. І я спадзяюся, што хлопцы, з якімі мы так рабілі, і дагэтуль не забыліся ні тых урокаў, ні самой мовы.**

— Я не хачу спрачацца: кожны ідзе тым шляхам, які для яго больш зручны.

**— Алег Віктаравіч, уключыўшы днямі “Радыё Балтыкі”, я нечакана пачуў ваша прозвішча і быў прыемна ўражаны тым, што вы казалі, распавядаючы пра народныя звычаі і прыкметы. Гэта што — выпадак?**

— Не, я кожны тыдзень раблю кароценькую перадачу на дзесяць хвілін, і мне вельмі падабаецца гэты занятак. Ён нейкім чынам набліжае мяне да людзей, бо, самі разумееце, у музей прыходзяць адзінкі, а тут я маю большую аўдыторыю.

**— Згадваючы пра гуканне вясны, вы прамовілі фразу: “У гэты час птушкі вяртаюцца з Вырыі”. Гэта што — абмоўка!**

— Не, так у беларускай (увогуле славянскай) міфалогіі называецца краіна мёртвых, нябыт, краіна продкаў. Ужываючы выраз “птушкі ляцяць у вырай” або “птушкі вяртаюцца з выраю”, які апроч беларускай захавалі яшчэ ўкраінская і польская мовы, мы, бадай, і не здагадваемся, адкуль узялася такая назва. Краіна Вырый (або Ірый) — тое месца, куды, згодна з міфам, адляталі душы памёршых і з якога вярталіся, каб увесну — як і ўсё жывое ў прыродзе — адрадзіцца ў новым целе, у новай якасці.

**— То мо з выраю — з нябыту — вернецца некалі і наша спадчына!**

— Будзем спадзявацца, што так. Спрадвечных законаў жыцця, так паэтычна і, дарэчы, так глыбока замацаваных не толькі ў нашых міфах, у фальклоры, але і ў нашай хіба што падсвядомасці, не адмяняў ніхто. Гэта ўвогуле немагчыма. Чыста практычна. Ім можна надаваць розную афарбоўку, але самі яны — гэтыя законы — застаюцца.

**Гутарыў Анатоль КІРВЕЛЬ.**

г.Санкт-Пецярбург.





# ЛЯЛЬКІ ЛЮБЯЦЬ УСЕ



**Тысячы дзяўчынак і хлопчыкаў з усёй Беларусі, краін блізкага і далёкага замежжа сабраліся ў Мінск на фестываль тэатраў лялек. Апафеозам дзіцячага свята сталі гулянні дзятвы ў парку імя Горкага. Тут наш фотакарэспандэнт і зрабіў гэтыя здымкі.**

**На прыгожа прыбранай цэнтральнай пляцоўцы адзін за адным сваё мастацтва паказвалі самадзейныя і прафесійныя калектывы Мінска і рэспублікі. Разам з дзецьмі выступалі майстры — ансамблі "Харошкі", "Свята", калектыў з Аўстрыі, які выконваў народныя песні і танцы, самабытны хор з Бярэзінскага раёна.**

**З латкоў у алеях парку прадаваліся лялькі і іншыя цацкі з гліны, саломкі, з тканіны і драўляныя. Прычым, рабілі іх і дарослыя, і дзеці, уклаўшы ў сваіх любімых герояў (а большасць тэм для вырабу цацак і лялек была ўзята з дзіцячых кніжак) і майстэрства, і фантазію.**

**Свята выклікала задавальненне і ў дзяцей, і ў дарослых.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

# АДНАЎЛЕННЕ АЎГУСТОЎСКАГА КАНАЛА

У Гродзенскім раёне праведзены праектна-даследчыцкія работы па аднаўленню пабудаванага ў пачатку мінулага стагоддзя Аўгустоўскага канала. Канал, што працягнуўся ад Нёмана да Віслы, доўгі час служыў транспартнай артэрыяй, якая злучала дзве ракі, і з'яўляўся унікальным інжынерным збудаваннем свайго часу. У перыяд другой сусветнай вайны Аўгустоўскі канал пацярпеў так моцна, што стаў непрыгодным для эксплуатацыі. Гэтым летам пачнуцца аднаўленчыя работы на беларускай частцы канала. Намечана ўзвесці шэсць шлюзаў і мастоў, расчысціць звыш дваццаці кіламетраў шляху.

# ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ

У розны час з вёскі Пінчыцы Дзятлаўскага раёна Гродзенскай вобласці ў Заходняе паўшар'е выехалі тры мае родныя дзядзькі: **КАРМІЛЬЧЫК Павел Сцяпанавіч** у 1918—1924 г. у Аргенціну. Спачатку жыў у свайго земляка з вёскі Нарцэвічы **ЯКШЭВІЧА (Іосіфа?)**; **КАРМІЛЬЧЫК Пётр Сцяпанавіч** — у ЗША ў 1924—1926 г.; **КАРМІЛЬЧЫК Мікалай Сцяпанавіч** 1911 года нараджэння — у Канаду ў 1928—1929 г.

Адрасоў усіх іх мы не маем.

Іх адшукваюць дзеці і ўнукі **КАРМІЛЬЧЫК** (па мужу **ПАЧАБЫТ**) **Антаніны Сцяпанаўны**, роднай сястры **Паўла**, **Пятра** і **Мікалая КАРМІЛЬЧЫКАЎ.**

Калі хто-небудзь што ведае аб упамянутых КАРМІЛЬЧЫКАХ, а таксама іх дзецях ці ўнуках, просім паведаміць у рэдакцыю "Голасу Радзімы" ці па адрасу:

**220002, г. Мінск, вул. В.Харужай, дом 39, кв. 1.**
**ПАЧАБЫТУ Баляславу Фляр'янавічу.**
**Тэл. 34-56-79.**

ЗАМАЛЁЎКА

# МАЛАНКА

Вецер прабег па страсе, і яблыня пад акном ціхутка зашамацела, нібы штосьці прашаптала.

Недзе нясмела прабурчэў гром, а за ім зігзагам прабегла маланка, даганяючы яго. Праз хвіліну-другую ў садзе трывожна загаманілі дрэвы, нахіляліся адно да аднаго, здавалася, аб нечым папярэджваючы. На старой яблыні рыпела голле.

Куст язміну, выставіўшы свае кветкі-красачкі, моцна ківаўся і сыпаў наўкола пах, водар свайго юнацкага багацця.

Наваколле накрылі хмары, і маланка раз-пораз бліскала, асвятляла і крэсліла хмару, як таямнічае страшылішча. Па небе каціўся ўжо моцны ранні малады грукатлівы гром, здавалася, вось-вось знішчыць усё на зямлі. Але ён толькі скалыхнуў хмару, і раптам хлынуў спорны дождж.

З грукатам і маланкаю моцны вецер падганяў хмарустрашылішча, і яна, прыбіўшы пыл і памыўшы лісце, паплыла за лес. Тут у сад заглянула вясёлае, ласкавае сонейка. Дрэвы сталі спакойнымі, кветкі язміну ўсміхаліся сонцу, п'янілі сваім водарам, лісцікі скідалі з сябе на зямлю кроплі дажджу і з усмешкаю частавалі чыстым паветрам. На лісцях сонейка гуляла.

Вылецеў верабейка, сеў на страсе, трапятаў крыллямі і штосьці крычаў па-свойму, радаваўся сонейку.

"Сто, трыста, тысячу гадоў назад людзі таксама назіралі такую прыгажосць. Ці будуць будучыя пакаленні яе бачыць?" — падумаў з сумам.

**Яўген КРАМКО.**

## *СПОРТ*

ЦЯЖКАЯ АТЛЕТЫКА. Чэмпіёнам свету сярод юніёраў у Празе ў катэгорыі да 108 кілаграмаў стаў беларускі спартсмен Руслан Даражнюк. Яго вынік у двухбор"і 382,5 кілаграма.

МАСТАЦКАЯ ГІМНАСТЫКА. Маладзёжнае першынство Еўропы прайшло ў Румыніі. Абсалютны чэмпіёнскі тытул дастаўся нашай зямлячцы Вользе Гантар. У яе таксама "золата" ў практыкаваннях з мячом і лентай і "серабро" ў практыкаваннях са скакалкай.

ТАЭКВАНДО. На адкрытым чэмпіянаце Даніі зборная жаночая Беларусі заняла другое. месца сярод сарака трох еўрапейскіх каманд.

У асабістым заліку першыя месцы дасталіся Юліі Бражновай і Але Бычэнка. Другія — у Святланы Хаткевіч, Анастасіі Суславай, Наталлі Старасценкавай.

Сярод мужчын вызначыўся мінчанін Сяргей Любінскі, які разам з залатым медалём атрымаў і кубак лепшага байца спаборніцтваў.

ВОДНЫЯ ЛЫЖЫ. Ніякіх шанцаў на поспех іншым камандам на Міжнародным турніры ў Кіеве не пакінулі беларускія спартсмены. Алена Мазоўка, Ірына Турэц, Юрый Рыкцер, Алег Дзевятоўскі — асабліва вызначыліся на спаборніцтвах на Украіне.

ВЕЛАСІПЕДНЫ СПОРТ. Зборная Рэспублікі Беларусь прыняла ўдзел у шматдзённай гонцы "Тур дзю Марок". У агульным заліку наш спартсмен Юрый Суркоў уступіў толькі французу Рэжы Сімону.

На заключным этапе вызначыўся і бабруйчанін Ігар Патэнка, які фінішаваў першым.

ВАЛЕЙБОЛ. Працягваюцца адборачныя матчы першынства Еўропы. Зборная Беларусі двойчы абыграла валейбалістак Іспаніі з аднолькавым лікам 3:1.

Нашы спартсменкі лідзіруюць у сваёй групе.

КІКБОКСІНГ. У Італіі прайшоў чэмпіянат свету. Удала тут выступіў мінчанін Уладзімір Задзіран, які заняў першае месца.

ШАХМАТЫ. А. Шыраў (Латвія), М. Гурэвіч (Бельгія) і Б. Гельфанд (Беларусь) лідзіруюць на міжнародным турніры, што праходзіць у Мюнхене.

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма" .



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск".
Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку".
Тыраж 5 000 экз.
Індэкс 63854. Зак. 779.
Падпісана да друку 31.05.1993.